PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 4 (2228) Год XLIV Беласток 24 студзеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Падпольныя святы

Ганна Кандрацюк

**Праваслаўныя жыхары Беластока ўсё часцей двойчы святкуюць Каляды: каталіцкія і праваслаўныя. У вялікай ступені гэта вынік беластоцкай пагарды для ўсяго, што не польскае і не каталіцкае. Гэтаму прынцыпу падпарадкоўваецца нават капіталістычны рынак. Шчаслівы той, хто здолее купіць на праваслаўныя святы жывую елку.**

6 студзеня, Куцця. На вуліцах Беластока звычайны будзень. Ніякіх адзнак вялікага свята. Не пашчасцілася нават сустрэць чалавека з елкай. У аўтобусах ніхто не размаўляе пра калядныя стравы, святочныя пакупкі, святочныя сюрпрызы. На базары, што па вуліцы Юравецкай, ніякага ажыўлення. Толькі ў адным ларку гандлююць ёлачнымі цацкамі.

— Сёння ўжо апошні дзень, — кажа знеахвочаная дзяўчына-прадаўшчыца.

Вакол яе крамы няма кліентаў. Як і ля прылаўкаў з рыбай. Праўда, дастанеце там яшчэ карпа ці селядца, але дарэмна шукаць шчупакоў, вугроў, ікру ці сомаў.

— Такія тавары былі на польскія святы, — інфармуе чырвоннашчокі прадавец рыбы.

— Праваслаўныя не купляюць лепшых тавараў? — пытаю.

— Яны пад каталіцкія святы купляюць рыбу, — паясняе прадаўшчыца з суседняга прылаўка. — Я сама, — кажа яна, найперш пачуўшы, што я з „Нівы", — праваслаўная. Патаргую да абеду і пабягу куццю рыхтаваць.

Мая субяседніца зрабіла святочныя пакупкі яшчэ перад каталіцкімі Калядамі.

— Бо пасля іх у гандлі дрымота і застой. Усё перабранае ды горшай якасці.

Словы маёй субяседніцы пацвярджае прадаўшчыца касметыкі.

— Усе камплекты — святочныя сувеніры, разышліся перад першымі Калядамі. Цяпер трэба самому складаць наборы, купляць пакеты і пакаваць падарункі.

Шчаслівы той, хто на праваслаўную Куццю здолее ў Беластоку купіць жывую елку. На ўвесь базар сустрэла я толькі тры пажоўклыя маленькія елачкі. Іх прадаўцы не выглядалі на прафесійных гандляроў, хутчэй на беспрацоўных выпівох, а іх елачкі — зусім як нядаўна пасаджаныя на гарадскія скверы дрэўцы. Апрача пажоўклых елачак прадаўцы прапанавалі тры кучы амялы і чырвоны хрэн у старым слоічку. У Беластоку няма аднак моды цалавацца пад амялой, а хрэн спажываюць найахвотней на Вялікдзень. Усё ж згаданых купцоў трэба палічыць пачы-

[працяг ☞ 3]



*На аглядзе праваслаўных калядак „Гайнаўка '98" паспяхова выступілі дашкольнікі з садзіка н-р 4. Пра мерапрыемства чытайце на 4 старонцы.* Фота Яўгена АЛЕКСЕЮКА

## „Перастройка" ў службе аховы здароўя

Міхаіл Гарбачоў пачынаючы перабудову Савецкага Саюза — дзяржавы, якая стаяла ўжо на зусім струхлелых асновах, лічыў, што ўдасца іх памяняць не парушаючы канструкцыю чырвонай імперыі. Сталася інакш. Калі толькі парушылі першую бэльку, абвалілася ўся канструкцыя.

Гарбачоўскую перабудову шмат у чым нагадвае рэформа службы аховы здароўя, якую ўрад пачаў уводзіць з першага студзеня гэтага года. Глыбока закаранелыя ў камуністычнай традыцыі кадры — асабліва лекары — капіталізм успрынялі паводле прынцыпаў палітычнай эканоміі, якой вучылі ў якасці абавязковага прадмета на ўсіх вышэйшых установах. Высновы тае тэорыі, запісанай у тоўстых тамах, гаварылі звычайна, што нормай у паводзінах капіталістычнага грамадства з'яўляецца эксплуатацыя аднаго чалавека другім і што калі нехта стаў багатым, тады абавязкова пакарыстаўся гэтымі асноўнымі правіламі сістэмы.

Пасля 1989 года кралі — з чыстым сумленнем — амаль усе, што мелі такую магчымасць. Найчасцей раней ствараліся адпаведныя законы, якія дазвалялі, згодна з правам, прысвойваць усялякім жулікам дзяржаўную ці грамадскую маёмасць. Капіталізм у такім выданні не абмінуў таксама і службы аховы здароўя. Лекарскія шпітальныя кабінеты неафіцыйна пераўтвараліся ў офісы прадпрымальнікаў, якіх паслугі мелі сваю рынкавую цану. У найгоршым становішчы апынуліся анестэзіёлагі, якія амаль не мелі кантактаў з пацыентамі і ніякіх магчымасцей уключыцца ў новую рынкавую сістэму аховы здароўя. Іх заработная плата была дакладна такая самая, ад якой яны заплацілі падаткі. «Яны далей, — гаворыць швейцар з беластоцкага Дзяржаўнага клінічнага шпіталя, — прыязджаюць на працу на „Фіатах", „Трабантах", „Паланезах" ці нават на гарадскім транспарце. У тым часе іх калегі, якія афіцыйна атрымлівалі такую самую плату, паспелі нават памяняць „Фольксвагены" на „Аўдзі"». Таму зразумела, што пачалі яны дамагацца платы, якая гарантавала б ім стандарт жыцця не горшы чым іншых лекараў. Пры канцы мінулага года патрабавалі яны спецыяльных кантрактаў, якія гарантавалі б ім найніжэйшую плату ў памеры 7 тысяч новых злотых, інакш — 2 тыс. долараў у месяц. Цалкам прыстойная сума, асабліва калі заўважым, што настаўнік, напрыклад, атрымлівае ў тым часе 200 долараў. Ва ўмовах рэформы анестэзіёлагі могуць толькі страціць. Прапануецца ім менш чым палову таго, што атрымоўвалі ў канцы 1998 года. Таму іх прэтэнзіі пэўна яшчэ не раз паспрыяюць скарачэнню жыцця пацыентаў.

Пакуль што ў амбулаторыях і аптэках трывае італьянскі страйк. Афіцыйна ўсе працуюць як і раней, толькі што хворых што і раз сустракаюць усялякія прыкрасці. У амбулаторыі не прымаюць дзяцей, якіх бацькі не памятаюць адзінаццацізначнага эвідэнцыйнага нумара, у аптэках не рэалізуюць рэцэптаў, на якіх лекар не пазначыў нумар свайго кантракта і PESEL пацыента. Хворыя, якія маюць права на „дармовую" апеку, гатовы нават яшчэ раз плаціць, але не маюць ніякай гарантыі, што і тады нехта іх лячыць будзе. У татальным змаганні за „касу" паміж урадам і лекарамі ніхто не бачыць пакутуючых людзей.

Анестэзіёлагі, і не толькі яны, бачаць як, напрыклад, паслы клапоцяцца пра свае камандзіровачныя, колькі зарабляе войт маленькай гміны ці рэферэнты ў дзяржаўных установах. Прыклады змагання за прыватныя інтарэсы плывуць з усіх бакоў. Статыстыкі паказваюць, што багатыя з году ў год становяцца багацейшымі, бедныя — беднейшымі, а рацыю, згодна з логікай воўчага права, заўсёды маюць пераможцы. Ніхто згодна з правам натуры не хоча быць ні бедным, ні прайграным.

Яўген Міранові́ч

*Сардэчна дзякуем усім чытачам, арганізацыям і ўстановам, якія павіншавалі нас з Новым годам і Калядамі.*
РЭДАКЦЫЯ

## Экуменізм на практыцы

У чацвер 7 студзеня невядома чаму амаль на ўсіх будаўнічых пляцоўках пры вуліцах Пясковай, Саўлянскай, Пёнавай з'явіліся брыгады рабочых і пачалі класці дахі. Ранкам з усіх бакоў даходзіў стукат малаткоў. Шмат хто хадзіў і звяртаў ім увагу, што навокал большасць людзей святкуе Каляды, але ў адказ чулі яны толькі смех і яшчэ больш невыносны гул машыны.

[звычайнасць ☞ 3]

## Ведаюць нашых

У снежні мінулага года прафесар Антон Міранові́ч афіцыйна быў прыняты ў склад Усходнеславянскай камісіі Польскай Акадэміі ўмеласцей у Кракаве і на ўрачыстым пасяджэнні камісіі 21 снежня 1998 г. выступіў з дакладам аб беларускім епіскапе Феадосію Васілевічу.

[інтэрв'ю ☞ 4]

## Абакралі пад Каляды

Царква на могілках у Райску ўзбуджала захапленне прыезджых і зайздрасць жыхароў суседніх парафій. Уначы з нядзелі 3 студзеня на панядзелак 4 студзеня, калі людзі рыхтаваліся да Каляд, новую царкву абакралі.

[святатацтва ☞ 5]

## Наша натура

Але ёсць і простыя пісьменнікі, якіх мы не дацанілі. Возьмем хаця б паважанага Васіля Петручука і яго бестселер „Пожню". Тут героем з'яўляецца сам аўтар — пастушок, які тое, што бачыў і перажыў, прадставіў у сваёй кніжцы.

[перачытванне ☞ 5]

## Басаногж зімой і летам

У Бельску-Падляшскім жыве пажылы мужчына, які ўжо дваццаць гадоў ходзіць басаногж, таксама і зімою, толькі тады надзявае на сябе паліто. Можна яго сустрэць усюды — на вуліцы, у магазіне, поездзе, храме і на царкоўных фэстах.

[незвычайнасць ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## У дэпутатаў свой закон, у пракуратуры — свой

10 студзеня ў Мінску адбылося пасяджэнне Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання. Сорак чатыры дэпутаты, якія засталіся вернымі Канстытуцыі і не прызналі прэзідэнцкага рэферэндуму 1996 года, прызначылі дату прэзідэнцкіх выбараў. Яны павінны адбыцца 16 траўня гэтага года.

Дэпутаты разумеюць, што іх рашэнне носіць больш фармальны чым рэальны характар. Але яны рабілі тое, да чаго іх абавязвае закон. Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ў сваім выступленні на пасяджэнні асабліва падкрэсліў, што ў 1994 годзе народ галасаваў за Аляксандра Лукашэнку як за прэзідэнта Беларусі тэрмінам на пяць гадоў і ніякія рэферэндумы заступіць прамыя выбары не могуць.

У той самы дзень апазіцыйныя прэзідэнту дэпутаты пастанавілі ўтварыць Цэнтральную Камісію па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у складзе 19 чалавек на чале з Віктарам Ганчаром. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета сумесна з Цэнтральным выбарчым камітэтам даручана ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета пералік арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў кіраўніка беларускай дзяржавы. Дадзеная пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця і будзе накіравана ўсім дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, каб тыя, хто па ўважлівых прычынах не змог узяць удзел у пасяджэнні 10 студзеня, змаглі б да яе далучыцца.

Як вядома, усе цывілізаваныя дзяржавы прызнаюць легітымным Вярхоўны Савет 13-га склікання, а не прызначаны ў 1996 годзе Аляксандрам Лукашэнкам парламент. Магчыма таму практычна невыканальнае рашэнне дэпутатаў ВС афіцыйныя ўлады ўспрынялі вельмі хваравіта.

Яшчэ напярэдадні пасяджэння ВС 13-га склікання пракуратура Рэспублікі Беларусь выступіла з заявай, у якой гаварылася, што сход дэпутатаў і планаваны на канец студзеня Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі не адпавядаюць дзеючаму заканадаўству. „Такія дзеянні могуць расцэньвацца не інакш як спроба захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, намер дэстабілізіраваць сітуацыю ў грамадстве, справакаваць масавыя беспарадкі", — гаворыцца ў заяве. Пракуратура папярэдзіла, што „арганізацыя і ўдзел у такіх процірпаўных дзеяннях пацягне за сабой крымінальную, так і адміністратыўную адказнасць".

Пасля таго, як, нягледзячы на пагрозы пракуратуры, дэпутаты легітымнага парламента ўсё ж прызначылі дату выбараў новага прэзідэнта з адпаведнай заявай выступіла Міністэрства юстыцыі Беларусі. Прэс-служба гэтага міністэрства паведаміла, што рашэнне дэпутатаў ВС 13-га склікання не мае пад сабой прававой асновы.

**Зміцер Кісель**

## Выбары, якія не даюць шанцаў на выбар

29 снежня 1998 г. у дзяржаўным друку Беларусі былі апублікаваны ўказ прэзідэнта „Аб правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" і закон „Аб выбарах у мясцовыя Саветы". Выбары прызначаны на 4 красавіка 1999 года.

На працягу мінулага года сярод розных беларускіх апазіцыйных партый вяліся спрэчкі пра іх магчымы ўдзел у выбарах. Так, Беларускі народны фронт „Адраджэнне" і Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада адназначна сцвярджалі, што нельга падпарадкоўвацца закону, прынятаму парламентам, які прызначаны Лукашэнкам, а не выбраны народам. Удзел у выбарах па Канстытуцыі 1996 года будзе азначаць яе прызнанне. Аб'яднаная грамадзянская партыя (Народная грамада) сцвярджае, што застаецца вернай Канстытуцыі 1994 года, але лічаць, што выбарчую кампанію можна выкарыстаць у агітацыйных мэтах і не выключалася канчаткова ўдзелу ў выбарах.

Публікацыя закону (што азначае ўступленне яго ў сілу) павінна паставіць кропку ў гэтых спрэчках.

Закон не пакідае магчымасці няўгоднаму ўладам чалавеку стаць дэпутатам. Забаронена быць кандыдатам грамадзянам, якія былі прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці. Большасць выдатных беларускіх апазіцыянераў апошнім часам масава штрафавалася і асуджалася да некалькіх дзён арышту. Такім чынам, шлях у органы мясцовай улады ім закрыты.

Фінансаваннем выбараў займаецца Цэнтральная выбарчая камісія. Яна выдаткоўвае сродкі на выбарчую кампанію. Партыі і грамадскія арганізацыі могуць аказваць дапамогу сваім кандыдатам, але грошы неабходна накіроўваць у Цэнтральную камісію, і яна будзе іх размяркоўваць.

Абмежавана колькасць агітацыйных плакатаў. Так, кандыдат у Мінскі гарадскі Савет можа надрукаваць іх толькі тысячу, у гарадскі Савет абласнога падпарадкавання — пяцьсот, раённага — дзвесце. Месца расклейвання плакатаў вызначаюць выбарчыя камісіі.

Артыкул 45 закона забараняе заклікі „к социальной, национальной, религиозной и рассовой вражде, оскорблений и клеветы в отношении должностных лиц Республики Беларусь, других кандидатов в депутаты". Практыка паказвае, што пад гэтыя забароны ўлады могуць „падагнаць" любыя крытычныя выказванні ў свой бок.

Практычна ўсе вядучыя беларускія апазіцыянеры выступілі з рэзкай крытыкай новага выбарчага закону і адзначылі бессэнсоўнасць удзелу ў выбарах.

**Зміцер Кісель**

## У новым годзе старыя праблемы

Пасля трохтыднёвага святочнага перыяду жыхары Беларусі зноў сутыкнуліся з праблемай забеспячэння сваіх сем'яў харчовымі прадуктамі.

Хаця ў адным са сваіх перадсвяточных выступаў Аляксандр Лукашэнка паабяцаў, што перад Новым годам у беларускіх крамах з'явяцца „нормальные человеческие яйца", да канца года ў свабодным продажы не было нават курыных. Але пасля святаў апошнія нарэшце можна было купіць. Аднак не па 50 тысяч рублёў за дзесятак як раней, а ўжо па 89 тысяч. Вярнулася на паліцы і сметанковае масла, таксама значна падаражаўшае. Так, у Гродне яго кошт падняўся з 170 тысяч за кілаграм да 240 тысяч. Кошт ялавічыны павялічыўся з 120 тысяч да 300 тысяч, свініны з 180 да 300.

Адначасова з 1 студзеня ў Беларусі ўзрос мінімальны заробак з 350 тысяч у месяц да 500. Зыходзячы з гэтага на некалькі сотняў тысяч павялічыліся пенсіі і заробкі працаўнікоў бюджэтнай сферы. Але адначасова ўзраслі ўсе падаткі і ўплаты грамадзян у бюджэт, бо іх велічыня залежыць ад мінімальнага заробку. У першую чаргу гэта ўдарыць па прыватных прадпрымальніках, якія і так ледзьве зводзілі канцы з канцамі.

Не спыняецца інфляцыя. Па стане на 14 студзеня долар ЗША ў Гродне прадаваўся па 290 тысяч рублёў, у Мінску па 310 тысяч. Людзі ўпэўнены, што да канца месяца цэны на тавары падымуцца ў некалькі разоў. Таму той, хто яшчэ мае грошы, намагаецца купіць неабходныя рэчы ў запас. Так, вечарам 10 студзеня па Гродне прайшла чутка, што на наступны дзень гарэлка падаражэе з 175 да 300 тысяч рублёў за паўлітра. Да закрыцця крамаў амаль усе моцныя напоі былі выкуплены.

Хаця чуткі пра падаражанне тады не пацвердзіліся, у крамах, дзе прадаецца гарэлка вытворчасці папулярных у Беларусі Брэсцкага і Мінскага лікёра-гарэлачных заводаў, з'явіліся чэргі. 14 студзеня ў Гродне можна было свабодна купіць саракаградусную толькі вытворчасці мясцовага завода, якая вядомая сваёй дрэннай якасцю.

**(зк)**

## Калі не бэнэфавец, дык хто?

Ужо пяты месяц знаходзіцца пад арыштам у следчым ізалятары УУС Віцебскага аблвыканкама старшыня мясцовай Рады БНФ „Выбар" 50-гадовы Уладзімір Плешчанка. Яго абвінавачваюць у разбурэнні помніка расійскаму палкаводцу Аляксандру Сувораву. У канцы жніўня мінулага года невядомымі злачынцамі быў скінуты з пастамента бюст генералісімуса, размешчаны каля аднаго з віцебскіх ваенкаматаў.

Хаця ў міліцыі не было дакладных доказаў, што дэмантаж помніка здзейсніў старшыня Віцебскай Рады БНФ, ён быў арыштаваны. Уладзімір Плешчанка не хавае сваіх негатыўных адносін да факта ўшаноўвання на Беларусі кіраўніка падаўлення антырасійскага паўстання канца 18-га стагоддзя, але свой удзел у пашкоджанні помніка адмаўляе.

На пачатку снежня 1998 г. крымінальная справа па абвінавачванні спадара Плешчанкі ў злосным хуліганстве і разбурэнні „культурна-гістарычнай каштоўнасці" была перададзена ў суд. Але ўжо ў сярэдзіне снежня вернута на дадатковае расследаванне. На пачатку студзеня пракуратура Кастрычніцкага раёна Віцебска апратэставала пастанову суда. Да канца студзеня гэты пратэст павінен быць разгледжаны ў абласным судзе. Увесь гэты час 50-гадовы Уладзімір Плешчанка знаходзіцца за кратамі.

**(зк)**

## Каляды ў старажытным тэатры

Вечарам 7 студзеня ў Гарадзенскім лялечным тэатры прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый горада сумесна адсвяткавалі Каляды.

Зала старажытнага тэатра, які быў пабудаваны яшчэ ў XVIII стагоддзі, не магла змясціць усіх жадаючых. Таму да святочнай ёлкі ў першую чаргу прапускалі дзяцей. Там іх сустрэлі „Василиса Прекрасная" і „Иванушка-дурачок". Так акцёры тэатра вырашылі павіншаваць з Калядамі дзяцей беларускіх адраджэнцаў, згодна са сваім звычайным наваrоднім сцэнарыем. Калі Васіліса больш-менш валодала беларускай мовай, то Іванушка яе асіліць не здолеў. Прапакутаваўшы некалькі хвілін, са страшэннай трасянкі ён перайшоў на „общепринятый". Сярод дарослых пачуліся жарты: „Гэта што — падарунак беларускім дзецям ад „старэйшага брата?", „Што зробіш — дурачок".

Нарэшце з'явіўся беларускамоўны Дзед Мароз (ён жа Віктар Шалкевіч), які пачаў раздаваць дзецям падарункі за прачытаныя вершаваныя творы. Самым папулярным на свяце быў верш „Здароў, марозны звонкі вечар" М. Багдановіча.

Дзеда Мароза змянілі калядоўшчыкі (удзельнікі самадзейнага хора „Бацькаўшчына"), якія ўяўлялі сабой персанажы адвечных беларускіх навагодніх святкаванняў — казу, цыганоў і г.д. Ад ёлкі дзеці разам з дарослымі перайшлі ў глядзельную залу тэатра. На сцэне адбывалася містэрыя пра цара Бальтазара, які не мог знайсці свайго шчасця, пакуль не адчуў сапраўднага Бога і не прыйшоў прывітаць нованароджанага Хрыста. Выканаўцамі прадстаўлення былі хлопцы і дзяўчаты з беларускай каталіцкай супольнасці Яна Хрысціцеля гарадзенскага Брыгідзкага касцёла. Такім чынам, яны павіншавалі сваіх праваслаўных сяброў з Раждзжаством Хрыстовым.

Пасля на сцэне згасла святло і запаліліся свечы. Пачуліся словы цудоўнай песні „Ціхая ноч". Ёю распачаўся выступ хору „Бацькаўшчына". Калядныя і царкоўныя песні на беларускай мове, некаторым з якіх больш як тыста гадоў, зачаравалі ўсіх прысутных.

Напрыканцы святочнага канцэрта выступіў дзіцячы ансамбль „Дударыкі". Калядкі ў выкананні маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак нікога не пакінулі раўнадушнымі. Апладысменты і слёзы замілавання былі падзякай ім і нястомнаму кіраўніку ансамбля Яўгену Петрашэвічу.

**(зк)**

# Куцця для адзінокіх



3 студзеня 1999 года Праваслаўнае брацтва св. св. Кірылы і Мяфодзія, што дзейнічае ў Гайнаўцы, арганізавала куццю для састарэлых адзінокіх людзей. Сустрэча пачалася малітвай. Дэкан Гайнаўскай акругі айцец Міхаіл Негярэвіч падзякаваў арганізатарам за тое, што ўжо трэці раз наладжваецца ў Гайнаўцы такая вячэра перад Раждждаством. Спачатку калядкі спяваў маладзёжны хор са Свята-Троіцкага сабора, а пасля ўсе разам з хорам. Апякун Брацтва, айцец Славамір Хвойка, гаварыў аб традыцыі супольных сустрэч вернікаў ва ўсходнім хрысціянстве.

На стале была просвіра, куцця, смажаная рыба, рыба ў грэцкім соусе, драждажавыя аладкі, селядцы, капуста з грыбамі, фрукты і кампот з груш і яблык. Людзі, якія прыйшлі на супольную вячэру былі рады, што не забылі іх, што разам са святарамі могуць успамінаць ранейшыя святкаванні і паспяваць калядкі.

— Куццю маглі мы арганізаваць дзякуючы фінансавай дапамозе Свята-Троіцкага прыхода. На вячэру запрашалі ва ўсіх трох прыходах Гайнаўкі, вешалі аб'явы каля цэркваў і інфармавалі ў часопісе „Паведамленні". Ведаем ужо людзей, якія раней прыходзілі на такія сустрэчы, дык запрашалі і дома. Тых, якія не маглі самі прыйсці, прывозілі і адвозілі на машыне. Аднак многія, якія прыходзілі да нас, зараз прабываюць у Доме міласэрнасці, — кажа намеснік старшыні Праваслаўнага брацтва ў Гайнаўцы Нэля Шчука. — Але былі і такія, якія саромеліся прыйсці, тлумачачы, што ў іх яшчэ ёсць сродкі на ўтрыманне і самастойную вячэру. Мы аднак арганізавалі куццю не дзеля таго, каб накарміць людзей, а дзеля супольнага перажывання духовай радасці і дзеля стварэння лепшых сувязей з Царквою.

Шчырыя размовы расчулілі многіх. Пасля вячэры і калядак былі святочныя віншаванні, а ўдзельнікі куцці дзякавалі за сардэчнасць і цеплыню. Сустрэча перад Раждждаством — гэта адно з многіх спатканняў, якія з 1992 г. арганізуе Праваслаўнае брацтва ў Гайнаўцы.

— Раз у месяц сустракаемся, каб паразмаўляць на розныя рэлігійныя тэмы. У гэтым годзе дыскутуем у галоўным на біблейскія тэмы, многа ўвагі адводзім актуальным праблемам. Штомесяц выдаем часопіс „Паведамленні", у якім расказваем пра нашу дзейнасць, пішам пра жыццё гайнаўскіх прыходаў і закранаем рэлігійныя тэмы, — расказвае Нэля Шчука. — Арганізавалі мы паломніцтва ў Вайнова, Супрасль, Яблачын, Уйковічы, Жыровічы. Па слядах нашых патронаў Кірылы і Мяфодзія ездзілі мы ў Чэхію. Ужо два разы арганізавалі паломніцтвы ў Крынічку.

— Нядаўна адрамантавалі другое памешканне ў Саборы Святой Тройцы, — кажа скарбнік Мікола Еўдасюк. — Сёлета ўжо другі раз выступаем суарганізатарам дабрачыннага канцэрта праваслаўных калядак, які адбудзецца ў ГДК. Даход з супольнага калядавання думаем перадаць беларусам у Рэспубліцы Беларусь.

**Аляксей Мароз**

# Якая тут праўда?

У 51 нумары „Нівы" (ад 20 снежня мінулага года) прачытаў z публікацыю Аляксея Мароза „Куды прадаваць малочныя прадукты", у якім аўтар расказвае пра складанасці са збытам у малочным кааператыве ў Гайнаўцы. Недахоп рынкаў збыту датычыць амаль усёй айчыннай сельскай гаспадаркі, а прычынай гэтаму з'яўляецца Еўрапейскі Саюз, які ставіць свае высокія нормы якасці. Гэта па загадзе заходніх інспектараў былі ўстрыманы экспарт малочных прадуктаў у заходнія краіны.

9 студзеня г.г. глядзеў я тэлеперадачу „Агралінія", у якой выступаў прадстаўнік малочнага кааператыва ў Высокім-Мазавецкім, завода-гіганта на Беласточчыне, абсталяванага суперсучаснай апаратурай. Ад даўжэйшага часу яго вытворчасць адпавядае сусветным нормам, а іхнія вырабы могуць канкурыраваць з прадукцыяй усіх краін Еўрапейскага Саюза. Бачылі ўсё гэта інспектары, якія праводзілі кантроль і, баючыся патэнцыяльнага саперніка, напісалі быццам бы кааператыў не стрымоўвае нормаў. Паверылі, як вядома, інспектарам Еўрапейскага Саюза.

Зараз сітуацыя адмянілася. З пачаткам студзеня г.г. высакаякасныя польскія малочныя прадукты зноў могуць экспартавацца. Ды не толькі малочнікі скардзяцца на клопаты з рынкамі збыту. Возьмем птушкагадоўлю. Адзін з вытворцаў у вышэйзгаданай тэлеперадачы „Агралінія" сказаў, што айчынным птушкафермам пагражае банкруцтва. А ўсё таму, што на польскім рынку пераважае некантраляваны імпарт птушынага мяса, якое прывозіцца з-за граніцы ў мароженым відзе. Кожны пакупнік ведае, што гэта тавар няякасны. Таму хітруны размарожваюць яго і прадаюць як свежы. Кліенту цяжка разабрацца, а надпісы на ўпакоўцы непраўдзівыя.

І так круціцца гандлёвая карусель. Купцы набіваюць кішэню, кліент траціць (на якасці тавару і цане), а айчынныя вытворцы апынуліся на грані банкруцтва. Уладальнікі птушкафермаў сцвярджаюць, што на складах зараз залежваецца 2,5-месячны запас айчыннага птушынага мяса. Каб пазбыцца гэтых запасаў, неабходны датацыі да экспарту. А такіх міністр сельскай гаспадаркі пакуль не гарантуе.

Ці нешта зменіцца ў бліжэйшы час? Песімістам з'яўляецца лідэр ПСЛ Яраслаў Каліноўскі, які называе адобраны кааліцыяй бюджэт на гэты год як заганны. Пра меркаванні сялян і работнікаў сельскагаспадарчай службы ў гэтай справе няма што і гаварыць.

**Уладзімір Сідарук**

# Падпольныя святы

[1 ☞ працяг]

нальнікамі капіталістычнага гандлю, вольнага ад антыправаслаўных прадузятасцяў. На базары сустрэла я многа гандляроў з-за ўсходняй мяжы. Яны бадзёра заахвочвалі прахожых спыніцца ля свайго таннага і нецікавага тавару, раскладзенага на газетах. Пакупнікі ўсё ж больш увагі звярталі на дарогу, дзе панавала раскіслае пасля адлігі балоцішча.

— У нас прэзідэнт адклікаў Каляды, — кажа гандлярка з залатымі зубамі на беларуска-рускай трасянцы. — У нас Новы год вялікае свята, — дадае яна.

Наведала я яшчэ самыя вялікія ў цэнтры горада крамы. У „Далікатэсах" па вуліцы Сураскай не наглядалася перадсвяточнага руху. Таксама прапанаваныя там рыба, пячэнне і вяндліна не вылучаліся святочным багаццем разнавіднасці і якасці. Ля прылаўкаў, як у звычайныя будні, стаяла жменька пакупнікоў. У магазіне „Новы" прывітала мяне карнавальная музыка, танга. У беластоцкіх крамах ніхто не дадумаўся яшчэ ўключыць беларускія ці ўкраінскія калядкі.

— Праваслаўныя маюць лепш за католікаў, — кажа прадаўшчыца з „Новага". — Пасля каталіцкіх свят усе ёлачныя аздобы ды і самыя ёлкі (зразумела, пластмасавыя) таннейшыя на 20 працэнтаў. Але людзі рэдка карыстаюцца прамоцыяй.

У магазіне „Цэнтраль" таксама штодзённы гандаль. Тут таксама амаль ніхто не карыстаецца святочнай прамоцыяй на пластмасавыя ёлачкі і цацкі. Ні на Куццю, ні ў дасвяточныя дні не давялося сустрэць мне на вуліцах Беластока „праваслаўнага" Святога Мікалая. Выглядае на тое, што і Дзед Мароз не любіць праваслаўных. На працягу амаль цэлага снежня бадзяліся па вуліцах горада табуны чырвоных, сініх і ружовых Мікалаяў. Усе яны пакінулі Беласток пасля каталіцкіх Калядаў. Ніхто з прадаўцоў студзеньскім пакупнікам не пажадаў „здаровых і вясёлых свят". Здзіўляе гэтая стрыманасць, бо ўсе асобы за прылаўкамі дарылі добрыя і зычлівыя ўсмешкі.

— Атмасфера памянялася б, калі б у Беластоку праваслаўныя святы сталіся выхаднымі днямі, — кажуць знаёмыя паляки. — У кожнага знойдзецца праваслаўны сваяк або сябра. Людзі супольна гасцявалі б, выпівалі б, наведвалі б сваіх сваякоў у вёсках і мястэчках. Проста вольны час заахвоціў бы да такога дзеяння. А так беларусы, як першыя хрысціяне, святкуюць у падполлі. І вельмі цешацца, калі нават адным сказам успомняць пра іх у тэлебачанні ці па радыё.

**Ганна Кандрацюк**

# Экуменізм на практыцы

Экуменізм, найкарацей кажучы, абазначае ўзаемную добразычлівасць вернікаў розных рэлігій і веравызнанняў. Згодна з духам экуменізму на Беласточчыне падчас калядных святкаванняў праваслаўныя жадаюць католікам, а католікі праваслаўным радаснага і спакойнага адпачынку. Жэсты такія мяняюць атмасферу, хаця ў глыбіні душы людзей усё гэта можа выглядаць больш складана.

У Беластоку ў квартале „Пшэмыслова", які раскінуўся вакол вуліц Пляжовай і Баранавіцкай, апошнім часам будуецца шмат новых дамоў. Летам і восенню на ўсіх пустых плошчах павырасталі катэджы як з журналаў. Халады на нейкі час спынілі працы. Але ў чацвер 7 студзеня невядома чаму амаль на ўсіх будаўнічых пляцоўках пры вуліцах Пясковай, Саўлянскай, Пёнавай, з'явіліся брыгады рабочых і пачалі класці дахі. Шмат, калі не большасць, жыхароў пры гэтых вуліцах складаюць праваслаўныя. Ранкам з усіх бакоў даходзіў стукат малаткоў, а пры Саўлянскай два святочныя дні выла машына, пры дапамозе якой нейкія мардатыя хамулы рэзалі чарапіцу. Шмат хто хадзіў і звяртаў ім увагу, што навокал большасць людзей святкуе Каляды, але ў адказ чулі яны толькі смех і яшчэ больш невыносны гул машыны. Дэманстрацыя хамства закончылася ў суботу. Дзякуючы таму, што ішоў снег, праваслаўныя на трэці дзень Каляд маглі спяваць калядкі без суправаджэння гоману за акном.

Нягледзячы на тое, што папа рымскі Ян Павел II ужо шмат гадоў заклікае католікаў да згоды і яднання з некатолікамі, сам дае прыклад пашаны для іншых хрысціянскіх і нехрысціянскіх веравызнанняў, аднак шмат тых, якія спасылаюцца на яго навуку і аўтарытэт, на практыцы робяць зусім другое. Дарэчы, усе найбольш радыкальныя антысеміты з вялікай набожнасцю ўспрымаюць Божую Маці Марыю і не прымаюць да ведама таго, што яна была яўрэйкай. **(ям)**

Супрацоўніцтва з Польскай Акадэміяй умеласцей у Кракаве пачалося пяць гадоў таму...

# Ведаюць нашых

**З прафесарам Антонам МІРАНОВІЧАМ, працаўніком Інстытута гісторыі Універсітэта ў Беластоку, гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

У снежні мінулага года прафесар Антоні Падраза афіцыйна прыняў мяне ў склад Усходнеславянскай камісіі і на ўрачыстым пасяджэнні камісіі 21 снежня 1998 года, ужо як паўнапраўны яе член, я выступіў з дакладам аб беларускім епіскапе Феадосію Васілевічу.



*Сустрэча з Яцкам Куранем і архімандрытам Іакавам у Супрасльскім манастыры. Прафесар Антон Міранович другі справа.*

***— Як пачалося Ваша супрацоўніцтва з Польскай Акадэміяй умеласцей у Кракаве?***

— Гадоў пяць таму праф. Рышард Лужны, які кіраваў Усходнееўрапейскай камісіяй Акадэміі, запрасіў мяне ўзяць удзел у працах камісіі ў якасці кансультанта навуковых праектаў і дакладчыка на пасяджэннях камісіі.

У мінулым годзе я атрымаў прапанову ўвайсці ў склад гэтай камісіі як паўнапраўны яе член. Такую прапанову я атрымаў ад кіраўніка гістарычнай камісіі, якая займаецца гісторыяй Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Гэта сустрэча дала мне магчымасць пахваліцца сваімі апошнімі працамі, такімі, як манаграфія аб мітрапаліце Іосіфе Тукальскім ды нядаўна выйшаўшай кніжкай аб манастырскім жыцці на Падляшшы. Прысутныя выказалі вялікае зацікаўленне, тым больш, што рэкамендаваў іх член гэтай камісіі, прафесар Ягелонскага універсітэта Аляксандр Навумаў, родам з Бельска.

***— Вядома, пра іншыя напісаныя Вамі кніжкі і працы яны ўжо чулі раней...***

— Некаторыя з членаў камісіі нават рэцэнзавалі іх. Зрэшты, на падставе ранейшых прац мяне і запрасілі ў камісію.

***— Спадар прафесар, нашаму чытачу цікава было б даведацца крыху больш пра Польскую Акадэмію ўмеласцей.***

— Акадэмія ўзнікла ў 1872 годзе, калі аўстрыйскія ўлады стварылі аўтаномію для Галіцыі. Яе задачай было развіццё польскай навукі і культуры ў межах аўстра-венгерскай манархіі. Акадэмія сыграла важную ролю ў фарміраванні свядомасці палякаў і украінцаў, якія жылі на тэрыторыі гэтай манархіі.

У міжваенны перыяд былі выдадзены працы важнейшых польскіх гуманістаў па гісторыі, лінгвістыцы, філасофіі.

Некаторыя асобы, як, напрыклад, праф. Генрык Пашкевіч, які звязаў сваё жыццё з Акадэміяй, працягвалі сваю працу ў эміграцыі. Менавіта праф. Пашкевіч стварыў Польскі інстытут у Рыме, а таксама польскія навуковыя фонды ў Лондане і Рыме. У Лондане, была выдадзена англійская версія яго прац і толькі Акадэмія ў Кракаве атрымала дазвол на перадрук у перакладзе на польскую мову. Дзякуючы асабістым сувязям прафесара з Акадэміяй мы маем магчымасць пазнаёміцца з такімі працамі, як пачаткі рускага народа і пачаткі сучасных дзяржаў на тэрыторыі „рускіх" зямель.

***— Ваша дарога да навуковай дзейнасці была даволі пакручастая, няпростая.***

— Сапраўды Вы добра сказалі. Я ж меў быць механікам. Але ўжо вучачыся ў Механічным ліцэі, у які аддалі мяне бацькі, я больш цікавіўся гісторыяй, чым тэхнікай, і ўжо тады ведаў, што мая жыццёвая дарога пойдзе, бадай, па іншых рэйках. І таму зараз жа пасля ліцэя я пачаў вучыцца на аддзяленні гісторыі Гуманітарнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

Пасля заканчэння універсітэта я чатыры гады настаўнічаў у пачатковых школах, а ад 1986 года да сёння працую ў Інстытуце гісторыі. У 1990 годзе я абараніў доктарскую дысертацыю на гістарычным факультэце Універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні, а ў 1997 годзе атрымаў званне доктара габілітаванага ў Люблінскім каталіцкім універсітэце. Падставай дзеля атрымання звання была праца „Праваслаўе і Унія ў часы панавання Яна Казіміра". У мінулым годзе сенат Універсітэта ў Беластоку прысвоіў мне званне прафесара.

***— На працягу многіх гадоў Вы былі разам з „Нівай". Ці „Ніва" мела ўплыў на Ваша станаўленне як беларуса, гісторыка, праваслаўнага і грамадскага дзеяча?***

— Пра „Ніву" я даведаўся яшчэ ў сярэдняй школе. Дзякуючы гэтай газеце ў часе вучобы ва універсітэце я сутыкнуўся з беларускім нацыянальным рухам, мог таксама пазнаёміцца з мінулым нашай зямлі, а таксама праблемамі, якімі жыло наша сучаснае грамадства.

Падчас адной з сустрэч спадар Мікола Гайдук запрапанаваў мне пачаць пісаць артыкулы пра гісторыкаў, якія займаліся мінулым Беласточчыны. І так у „Ніве" ўзнік куток „Варта ведаць", які на працягу 1981-1986 гадоў стаў амаль пастаяннай рубрыкай.

Такія былі мае пачаткі супрацоўніцтва з „Нівай" і гэты факт я ўспамінаю сёння з вялікім сентыментам. Менавіта тады мне стала ясна, што я павінен сплаціць доўг сваёй грамадскасці, пішучы аб яе багатым мінулым.

Дзвюм асобам — сп. Міколу Гайдуку і айцу Рыгору Сасне я да сёння ўдзячны за тое, што яны патрапілі на ўсё жыццё зацікавіць мяне беларускай і царкоўнай праблематыкай.

***— Вы апублікавалі ўжо дзесяць кніжак і каля ста пяцідзесяці навуковых артыкулаў, прысвечаных гісторыі Праваслаўнай царквы ў XVI-XVII ст.ст. Якія з іх Вы лічыце найважнейшымі?***

— Мне найбольш падабаецца праца пад загалоўкам „Кніга цудаў...", якую я прысвяціў сваёй жонцы. Кніжка расказвае аб цудоўным здарэнні перад іконай Божай Маці ў Старым Корніне. Падрыхтаваў я яе да друку, калі цяжка захварэла мая жонка. Уся надзея была ў цудзе. І цуд здарыўся.

***— Дзякую за размову.***

*Фота Ады Чачугі*

# Агляд праваслаўных калядак




*Пераможцы з садзіка н-р 1.*

5 студзеня 1999 года ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адбыўся II Гарадскі агляд праваслаўных калядак „Гайнаўка '99", якога галоўным арганізатарам выступіў Гайнаўскі аддзел БГКТ, а суарганізатарамі — белліцэй, праваслаўныя прыходы і Гайнаўскі дом культуры. Другім этапам агляду калядак быў дабрачынны канцэрт у Гайнаўскім доме культуры, які праходзіў 10 студзеня з удзелам найлепшых выканаўцаў з ліцэя.

Дашкольнікі, вучні падставовых і сярэдніх школ, публіка і госці сабраліся ў вялікай спартыўнай зале белліцэя, упрыгожанай вайсковай сеткай і малюнкамі гвяздаў, святога Мікалая і гульняў на снезе.

Першымі выступілі дзеткі з дзіцячых садзікаў н-р 1 і н-р 4. Выступленні най<br>малодшых заўсёды пакідаюць самыя моцныя ўражанні, так было і на гэты раз. Усе дзеткі выступалі з прыгожымі гвяздамі, а памагалі ім іх апекуны. Увагу публікі прыцягвалі энтузіязм, шчырасць спеву ды вопратка — белыя блузкі і кашулі. Пераможцамі сталі дзеткі з прадшколля н-р 1, якіх рыхтавала і выступала на сцэне Вера Акачук. Цікавае выкананне калядак спадабалася таксама і публіцы, якая горача ім апладзіравала. Апрача дыпломаў і падарункаў, якімі ўсіх удзельнікаў надзялялі Святы Мікалай і старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Міхал Голуб, дзеткі са згаданага прадшколля атрымалі ўзнагароду ад прыхода св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы. Журы ў складзе: Марыя Сцепанюк, Бажэна Ляўчук і Мікола Бушко вырашыла, што на дабрачынным канцэрце ў ГДК выступаць будуць усе наймалодшыя выканаўцы. Сярод дзетак з класаў I—III камісія найвышэй ацаніла вучняў Падставовай школы н-р 3, якіх апекуном і дырыжорам была Ліля Буслоўская. За прыгожы спеў атрымалі яны ўзнагароду прыхода св. Дзмітрыя Салунскага. У групе старэйшых вучняў за свой непаўторны спеў на два галасы і акцёрства на сцэне першынства дабіліся вучні Падставовай школы н-р 6, дырыжорам і апекуном якіх была Альжбета Сідарук, а памагаў ёй Анатоль Корх. Узнагароду прыхода Святой Тройцы атрымалі яны за ўзорнае выкананне калядак „Учора з вячора" і „Радуйся зямля, што Сын Божы нарадзіўся". На канцэрт у ГДК сярод падставовых школ запрошаны яшчэ былі вучні школ н-ры 1, 3, 5 і 6.

У катэгорыі сярэдніх школ было трох выканаўцаў. Увагу публікі звярнулі віртуозныя спевы і непаўторныя галасы вучняў і выпускнікоў белліцэя, якія заспявалі дзве калядкі „А ў свеце" і „Дзева днесь". Сярод іх многія спяваюць у маладзёжным хоры Свята-Троіцкага сабора. Падабалася таксама выступленне Іаанны Масайлы, якая спявала пра ціхую ноч над Палессінай. Прыгожа таксама выканаў дзве калядкі „Учора з вячора" і „Новая радасць стала" хор гарцэраў атрада „Палессе" з белліцэя, якім апекаваўся і дырыжыраваў айцец Марк Якімюк. Журы вырашыла прысвоіць ім першае месца і ўзнагароду Гайнаўскага аддзела БГКТ і ГДК. Апрача амаль двух соцень удзельнікаў конкурсу публіка выслухала яшчэ прыгожага калядавання ў выкананні маладзёжнага хору Свята-Троіцкага сабора.

Завяршэннем агляду каляднікоў быў дабрачынны канцэрт, які адбыўся ў ГДК, а дапамагала яго арганізаваць Праваслаўнае брацтва. Выручка ад білетаў пойдзе на дапамогу беларусам у Рэспубліцы Беларусь. Выступалі там каляднікі-пераможцы, хор ГДК і хор дарослых Свята-Троіцкага сабора. У час канцэрта ўдзельнікам агляду былі ўручаны ўзнагароды і памятныя здымкі з выступленняў. Апрача ўспамянутых спонсараў мерапрыемства фінансава падтрымалі бацькоўскі камітэт белліцэя і гайнаўскі самаўрад, а кніжкі для ўдзельнікаў перадало выдавецтва „Братчык".

**Аляксей Мароз**

*Фота Яўгена Алексеюка*

# Наша натура

Чалавек пераважна хваліцца сваёй дабратою: што ён спагадлівы ў адносінах да іншых. Аднак свая кашуля бліжэй цела і таму кожны чалавек у першую чаргу дбае пра сябе і сваю сям'ю, а рэшта людзей — гэта далейшы план. Чалавек ад вякоў не можа змяніць сваю прыроду, бо створаны з тых самых клетак і генаў; і можа навучыцца вялікіх ведаў, аднак дабраты — не. Дабрата, спагада і шчырасць сядзяць усярэдзіне нашага характару. Калі чалавек ад нараджэння скупы і скнара, а гэта ідзе па генах і крыві продкаў — скупым астанецца да самай смерці і ніякая навука не навучыць яго шчырасці. Таксама і подласць чалавека не ўцякае ад яго і слушна гаворацъ, што гарбатага толькі магіла выпрасціць. І чытаючы цікавыя допісы прафесара Алеся Барскага п.з. „«Наша ніва» і ўсходняя Беласточчына" бачым, што нашы продкі пры царызме мелі тыя самыя праблемы, якія і мы цяпер маем: ашуканства ўлад, п'янства, зладзейства, пагарда да роднай мовы, малое зацікаўленне кніжкамі і шмат іншага. Пра гэта ў „Нашу ніву" пісалі карэспандэнты з нашых ваколіц і яны не ілгалі. Падобнае і цяпер пішам мы, карэспандэнты, мо толькі на крыху іншай мове. А факт астаецца адзін: наш народ (і хіба кожны) застаецца такім, якім быў і калісьці. Сёння, праўда, маем дэмакратыю і тыя, якія намі правяць — яны на ласцы і волі нашай. Бяда заключаецца аднак у тым, што мы не патрапім адрозніць мякіны ад пшаніцы і часта выбіраем на высокія пасады розных прайдзісветаў заміж добрых і гуманных сваіх людзей. А добрыя і адданыя патрыёты-беларусы ёсць, бо, як гаворыцца, свет не без добрых людзей.

Цяпер я некалькі слоў скажу пра літаратуру, у тым ліку і пра нашу, беларускую. Кніжак цікавых ёсць шмат. Чым больш фантазіі ў кніжцы — яна больш цікавая, хаця не канечне. І найлепшыя кніжкі ўзнагароджваюцца вялікімі ўзнагародамі і прызамі, у тым ліку і Нобелеўскай прэміяй. Ці кожны лаўрэат Нобелеўскай прэміі варты яе — не мне, простаму чалавеку, судзіць; ёсць многа разумнейшыя ад мяне. Аднак можна свае высновы вылажыць на паперу. Пачну ад савецкага класіка Міхаіла Шолахава, які напісаў цудоўную казацкую эпапею „Ціхі Дон" і даў для яе выдуманых сабою герояў Грыгорыя і Аксінню. Гэта штучныя асобы і каб не яны — аповесць была б мізэрнай і не дачакалася б такой высокай узнагароды. Значыць выдумка-хлусня займае ў літаратуры выдатнае калі не першае месца. Таксама Барыс Пастарнак у сваім „Доктары Жывага" героямі паставіў простых людзей. І кожны набліст свае кніжкі пісаў з буйнай фантазіяй і яны напэўна каштоўныя, бо ў іх паказаны пачуцці, характар і душа народа.

Але ёсць і простыя пісьменнікі, якіх мы не дацанілі. Возьмем хаця б паважанага Васіля Петручука і яго бестселер „Пожню". Тут героем з'яўляецца сам аўтар — пастушок, які тое, што бачыў і перажыў, прадставіў у свёй кніжцы; яна павінна быць яшчэ два разы таўсцейшай. Не сакрэт: я калісь меў шмат засцярог да гэтай аповесці і нават дайшло да варожасці, бо я не ведаў людзей і смаку жыцця. Але калі год таму я пачаў абслугоўваць Грабавец са сваёй паштовай сумкай, тады пераканаўся і ясна ўбачыў, што грабаўляне дакладна такія, як іх Петручук прадставіў у ягонай аповесці, а сюжэт яе жывы і праўдзівы. Нічога там не выдумана, а гэта ўжо вялікае майстэрства. Бо ведаем, што кніжка без фантазіі, а на адных фактах — нецікавая і нудная. Аднак „Пожня" — гэта рэдкае выключэнне, бо аснована яна на фактах і здарэннях, якія адбыліся ў сапраўднасці, а прозвішчы і імёны герояў, з выключэннем некалькіх асоб — праўдзівыя. Урочышчы, палеткі і сенажаці каля Грабаўца — такія як і цяпер. Аўтар паказаў, як цяжка жылося нам пры санацыі, у смуродзе, брудзе і галечы. І смешна, калі нейкія польскія „знаўцы" параўноўваюць даваенную Польшчу да райскай краіны — гэта казка, бо ўсё было прагжэрта зладзействам і варожасцю да іншых нацый, у тым ліку і да беларусаў. І санацыйнай Польшчы далёка да тае Польшчы, якая пасля вайны называлася сацыялістычнай, ці, калі хто жадае, камуністычнай.

„Пожня" напісана на простай беларускай мове і кожны яе зразумее, бо я, напрыклад, не магу цярпець тае пісаніны, дзе толькі філасофскія прыпавесці, і калі яе прачытаеш — нічога не зразумееш; а на жаль: сёння мода на такі „нямецкі" стыль.

Васіль Петручук вельмі цікава прадставіў аднаго селяніна з Елянкі, пачэснага Сахара, які быў адукаваным і веруючым чалавекам, а Біблію ведаў бадай на памяць. Добры быў гэта чалавек, які не прычыніў нікому зла і меў залатыя рукі; рэдка спаткаць сёння такіх людзей. І вось гэты Сахар, калі немцы ў 1941 годзе перліся на ўсход пэўныя сваёй скорай перамогі над саветамі, коньмі запрэжанымі ў плуг выараў за вёскай паласу з усходу на захад і сказаў франтавым немцам: глядзіце і запамятайце, што праз некалькі год гэтай паласою, што я выараў, вы будзеце ўцякаць на захад, аж пыл будзе курэць. Немцы палічылі чалавека дзіваком і таму нічога дрэннага яму не зрабілі. І ўлетку 1944 года немцы ўцякалі дакладна тою паласою, якую Сахар ім калісьці пралажыў.

„Пожня" В. Петручука гэта кніга асаблівая і, як правіла, грабаўляне не вельмі ёю захоплены, бо аўтар напісаў пра іх праўду: іхныя мінусы і плюсы. І мінусаў хіба больш, бо, — як я ўжо за св. Аўгусцінам пісаў раней, — чалавек з натуры дрэнны і толькі тады будзе добрым, калі Хрыстос стане яго спадарожнікам. А праўда ў вочы коле. Калі б „Пожню" напісаў нейкі польскі пісьменнік, дык я думаю, што яна ўжо даўно стала б асноваю цікавага фільма. Бо „Пожня" аж просіцца на кінасцэнарый, і варта яе зноў аднавіць на добрай паперы і ў цвёрдым пераплёце, бо тая першая ў руках развальваецца. І хачу яшчэ дадаць, што нікому не ўдалося так цікава і праўдзіва, на фактах, апісаць сваю вёску, як гэта зрабіў В. Петручук. „Пожня" гэта такая кніга, якую трэба чытаць дакладна, сканцэнтравана, з павагай, бо калі не так, дык можа дайсці да вялікіх непрыемнасцей, як было гэта калісьці са мною.

Наканец хачу напісаць і добрае слова пра нашых людзей, бо хаця мы духова мяккія, аднак палякам далёка да нас. І хачу прывесці праўдзівыя факты: да нашых дзяўчат-беларусак папрыходзілі ў прымы хлопцы-палякі з Польшчы і кажуць, што мы народ залаты, бо каб прыйшлося беларусу аднаму пражыць у польскай вёсцы са сваёй, ужо польскаю, сям'ёй — ён прапаў бы, як рудая мыш. А ў нас шавінізму няма; хай ведаюць усе!

**Мікалай Панфілюк**

# Сустрэчы ў Музеі

— Запрашаем у Беларускі музей у Гайнаўцы ўсіх, каму блізкая беларуская мова, культура, а сумна сядзець у хаце, на вечарынкі ў кожны панядзелак ад 16.00 да 19.00, — кажа бібліятэкар Наталля Герасімюк. — На сустрэчы могуць прыходзіць і дзеці, і моладзь, і людзі старэйшыя і ўжо на месцы, залежна ад запатрабаванняў і просьбаў будзем вырашаць характар спатканняў. На месцы можна будзе ўзяць з нашай бібліятэкі і пачытаць дома беларускія кніжкі. Зараз у нас больш за тры тысячы кніжак, з Рэспублікі Беларусь атрымліваем некаторыя часопісы: „Роднае слова", „Пачатковую школу", „Настаўніцкую газету", „Пралеску", „Лесавік", выпісваем таксама „Ніву", перыёдыку можна чытаць на месцы. Заказалі мы таксама іншыя часопісы ў Беларускім консульстве ў Беластоку, але не ведаем, які будзе рэзультат. Неўзабаве атрымаем каля трыццаці кніжак ад Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" і Беларускага гістарычнага таварыства, якія выйшлі на працягу апошніх гадоў. Нашу бібліятэку найчасцей наведваюць настаўнікі беларускай мовы і вучні беларускага ліцэя, якім неабходная метадычная літаратура, класіка, звесткі па гісторыі Беларусі, распрацоўкі паасобных твораў ці матэрыялы для напісання канкрэтных сачыненняў. Прыязджаюць таксама і студэнты беларускай філалогіі з Варшавы, Любліна і Беластока ды іншых факультэтаў.

21 і 22 студзеня 1999 года ў Беларускім музеі адбудзецца ёлка для ўсіх дзяцей з Гайнаўкі і ваколіцы, якія вучацца беларускай мове, а 30 і 31 студзеня будзе адбывацца Раённы конкурс сцэнічных форм на беларускай мове.

— Усіх вучняў ад II да V класаў, якія вучацца беларускай мове запрашаем у чацвер 21 студзеня ў 10.00, а вучняў ад VI да VII класаў запрашаем у пятніцу 22 студзеня ў 14.00, — гаворыць спадарыня Наталля Герасімюк. — У час спатканняў з Ялінačкай, на якія запрашаем не толькі арганізаваныя групы з настаўнікамі, але ўсіх ахвотных, прадбачваем розныя конкурсы з узнагародамі, прадстаўленні, ну і танцы. Раённы конкурс сцэнічных форм таксама раздзялілі мы на 2 дні, каб рэпертуар больш падыходзіў да ўзросту вучняў. У суботу 30 студзеня ў 10.00 запрашаем гледачоў, якія схочуць пабачыць выступленні вучняў II-V класаў, а ў нядзелю, 31 студзеня, могуць прыходзіць тыя, якія пацікавяцца выступленнямі вучняў VI-VIII класаў і ліцэістаў.

**Аляксей Мароз**

# Абакралі пад Каляды

Чатыры гады будавалі парафіяне царкву на могільніку ў Райску. І ўсё — сваімі рукамі, без ніякіх дзяржаўных датацый, з ахвяр парафіян.

Праўда, у вёсцы ёсць старая драўляная царква, перавезеная з Тамашова, што ў Люблінскім ваяводстве (царкву ў Райску немцы спалілі разам з вёскай і людзьмі ў час апошняй вайны), але тая, якую пабудавалі на могільніку, па сваёй архітэктуры і выкананні — арыгінальная і цудоўная з'ява ў нашым вясковым краявідзе (праект інжынера Міхаіла Баласа).

Пабудаваная з белай цэглы, прасторная і незвычайна прыгожая як на ўмовы могілак, новая царква ўнесла ў сэрцы парафіян радасць і гонар. А Райская парафія немалая, складаецца з васьмі вёсак. Апрача Райска, уваходзяць у яе Плюцічы, Храбалы, Гацькі, Гусакі, Яцэвічы, Налогі, Лысыя.

Царкву будавалі дружна, а ў 1997 годзе пасвяціў яе сам мітрапаліт Васілій. Ад гэтага часу тут парафіяне развіталіся са сваімі аднавяскоўцамі, ды і паніхіда адбывалася ў добрых умовах.

Царква святой мучаніцы Параскевы ўзбуджала захапленне прыезджых і зайздрасць жыхароў суседніх парафій, дзе такіх цэркваў на могілках не было.

Уначы з нядзелі 3 студзеня на панядзелак 4 студзеня, калі людзі рыхтаваліся да Каляд, новую царкву абакралі.

**Расказвае настаяцель Яраслаў Годун:**

— Пасля абеду, а гадзіне 15-ай у нядзелю я быў яшчэ ў царкве (у панядзелак мела быць пахаванне).

Калі раніцай, а гадзіне 8-ай у панядзелак я падышоў да царквы, то ўбачыў выламаныя дзверы. Мяне адразу прашыла непакоем.

І сапраўды, у царкве я ўбачыў беспарадак, усё было развалена. На прастоле не было Евангелля.

Мы адразу выклікалі паліцыю. Ну, што ж, прапала ікона Марыі Магдаліны (з Бельскай іканаграфічнай школы), вынасная ікона, царкоўны посуд: лыжачка, кап'ё (ножык) і звяздзіца.

Мо камусь здаецца, што няшмат узялі, але для такой царкоўкі гэта многа. Парафіяне вельмі перажываюць. Усё ж тут — іх праца.

Паліцыя гаворыць, што мо ўжо ўсё вывезена заграніцу, але мы чакаем, што злодзея ці зладзеяў хутка знойдуць. Пакуль што аднак нічога не чуваць.

Мы разам з бацюшкам шкадуем, што нейкія рабаўнікі смяюцца ў гэты момант з людскіх пачуццяў. Застаецца нам толькі чакаць і мець надзею, што на гэты раз паліцыя будзе больш борздкай і аператыўнай, а не такой павольнай і бездапаможнай, як было тады, калі абкрадалі іншыя цэрквы.

**Ада Чачуга**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Пра дэкламатарскі конкурс


*Дэкламатары з Орлі.*

Як у мінулым, так і ў гэтым школьным годзе многія вучні пачатковых школ прымаюць удзел у дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова”. Арганізатарамі мерапрыемства выступаюць Галоўнае праўленне БГКТ, дырэктары школ і кіраўнікі культурна-асветных установаў. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя беларускай мовы, разбуджэнне зацікаўленасці жывым, мастацкім словам. Удзельніку трэба падрыхтаваць твор — паэзію або прозу на беларускай мове ўлічваючы, што дэкламацыя не можа працягвацца больш пяці хвілін. Конкурс праводзіцца ў трох этапах: найперш школьныя элімінацыі (завяршыліся яны 20.12.1998 г.), далей гмінныя (да 20.01.1999 г.), пазней раённыя і цэнтральныя (да 31.01.1999 г.). Дзеля згаданых этапаў вызначаны раёны: Беласток (школы і культурна-асветныя гурткі з тэрыторыі гмін: Заблудаў, Міхалова, Гарадок, Супрасль, Шудзялава, Крынкі і Новы Двор, гарады Саколка, Дуброва-Беластоцкая і Беласток), Бельск-Падляшскі (горад і гміна Бельск-Падляшскі, Вышкі, Боцькі і Орля), Гайнаўка (горад і гміна Гайнаўка, Чыжы, Белавежа, Нарва, Нараўка, Кляшчэлі, Дубічы-Царкоўныя, Чаромха, Мілейчычы, Нурэц, Мельнік і горад ды гміна Сямятычы). Выканаўцы з Варшавы і Гданьска могуць непасрэдна быць запісаны на цэнтральныя элімінацыі.

**У Орлі**

15 снежня мінулага года ў Пачатковай школе ў Орлі адбыўся дэкламатарскі конкурс. Дзяцей падрыхтавалі настаўніцы беларускай мовы Галіна Адзіевіч і Яўгенія Тхарэўская. У конкурсе прыняло ўдзел аж 26 вучняў з III па VII клас.

— Я цешуся, што вас так многа ў гэтым годзе, — сказала спадарыня Тхарэўская. — Ведаю, што любіце беларускую мову, будзеце яе старанна вывучаць і заахвочваць іншых.

Журы ў саставе: Яўгенія Тхарэўская, Галіна Адзіевіч, Ніна Шуй і ніжэйпадпісаны ўзнагародзілі ўсіх выканаўцаў. Конкурс прадбачваў тры катэгорыі: I — вучні 0-III класаў, II — вучні IV-V класаў, III — вучні VI-VII класаў.

На школьную сцэну найперш выйшлі наймалодшыя. Удзельнікаў горача падтрымоўвалі школьныя сябры.

— Некаторыя вершы былі цудоўныя, можна было захапляцца іх выкананнем, некаторыя былі вельмі добрыя, здараліся, праўда, невялікія памылкі, але іх можна выправіць, — сказала Я. Тхарэўская.

На раённыя элімінацыі ў Бельск-Падляшскі паедуць: Аня Пост, Наталля Міранчук і Адам Раманюк з другога класа, Павел Герасімюк з V класа, Анеля Мартынюк, Магда Мартыновіч і Кася Васілюк.

У Орлі 192 вучні, разам з нулявым аддзелам. На беларускую мову ходзіць 81 школьнік. У конкурсе не прымалі ўдзелу васьмікласнікі. Найбольш энтузіястаў роднай мовы ў III класе. Пра дзетак у мінулым годзе шмат друкавалася ў „Зорцы”.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

## Вершы Віктара Шведа

### Цікавая размова

Ваня спытаў Марціна:
— Маеце вы сына?
Той адказаў малому:
— Маю, вядома.
— А ці ён п'е, або курыць?
— Не п'е і не курыць мой Шура.
— А колькі яму гадоў?
— Трэці пайшоў.

### Паўнашчокі сынок

Цётка прыехала здалёк,
Убачыўшы хлопца сказала:
— Паўнашчокі малы ваш сынок,
Яго корміце вы дасканала.

- Выгляд той памылковы
на здзіў,—
Адказала на гэтае матка. —
Мае ў роце на дзяснах нарыў,
А ў шчацэ пчалы джала дзіцятка.

## Загадка

Маю рогі, маю ногі,
Я багаты і ўбогі —
Ля мяне ўсе сядаюць,
Дык скажы, як называюць?

(ɔɪоɔ)

# Тры дні ў Белавежскай пушчы


*Леснікова пасада ў Падцэрквах.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

6 лістапада ў Белавежы пачаліся XV Сустрэчы „Зоркі”, у якіх і я мела магчымасць удзельнічаць. Праз тры дні мы жылі ў цудоўным драўляным доме пасярод сапраўднай пушчы. Прыемна было пасядзець вечарамі ля цёплай нафтавай печкі і пры свечках, слухаючы расказы і жарты маіх старэйшых сяброў. Ноччу было нават страшнавата, асабліва, калі трэба было сысці, толькі са свечкай, уніз у туалет. Мне здавалася, што чую галасы зуброў, таму была прымушана разбудзіць у тры гадзіны раніцы і папрасіць дапамогі маю старэйшую сяброўку. Яна была вельмі незадаволена, аднак маю надзею, што да гэтай пары ўжо мне прабачыла.

Не менш цікавымі аказаліся і сустрэчы з журналістамі. Яны вучылі нас, пісаць інтэрв'ю. Я старалася слухаць уважліва, думаю, што даволі многа запамятала, аднак самастойнага інтэрв'ю яшчэ не напісала.

Пушча пакінула ў мяне незабыўныя ўражанні. Яе магутнасць і прыгажосць я змагла пазнаць не толькі на дзевяцікіламетравай экскурсіі па яе сцежках, але і на слайдах. Вогнішча вечарам амаль у сэрцы пушчы, пры яе таямнічых галасах, было поўнае чароўнасці і таемнасці. Загадкай для мяне засталося і месца моцы, якое мы наведалі. Цяпер шкадую, што не хапіла мне адвагі, каб пастаяць на таямнічым камені.

Дзякуючы гэтым сустрэчам я зразумела як выглядае сапраўдная пушча і чаму яе прыгажосцю многія захапляюцца.

Не трэба ездзіць далёка, каб убачыць нешта непаўторнае. Пакуль захапляцца далёкімі мясцінамі, трэба добра пазнаць нашу Беласточчыну. У гэтым я пераканалася, цяпер хачу пераканаць сваіх класных сяброў. Яшчэ не ведаю як гэта зрабіць.

**Наталля БАБУЛЕВІЧ,**
**IV „а” клас бельскай „тройкі”**

# Цікавая сустрэча ў Гарадку

15 снежня 1998 г. у мясцовым асяродку культуры адбылася вельмі цікавая сустрэча. Нашым госцем быў беластоцкі паэт Віктар Швед. Госць гэта незвычайны, бо, хіба, як адзіны наш тут паэт, піша зразумелыя для дзяцей вершы.

У першай, павітальнай, частцы спаткання малодшыя дзеці з нашай школы прадэкламавалі некалькі вершаў са зборніка „Вясёлка”, а таксама заспявалі дзве песні на словы вершаў з гэтай жа кніжкі. Дзве васьмікласніцы прачыталі свае быліцы-небыліцы.

У другой частцы сустрэчы спадар В. Швед расказаў нам пра сваё жыццё і творчасць. Пачаў ад чытання сваіх найдаўнейшых вершаў, а скончыў на зборніку вершаў для сваёй дачкі — Натальκі.

У сустрэчы прымалі ўдзел дарослыя і дзеці. І ўсе яны пасля яе заканчэння мелі магчымасць купіць кніжкі. Многія гэтым пакарысталіся.

**Мажэна ГЕНІШЭЎСКАЯ,**
**Гарадок**

# Узнагароды аўтарам „Зоркі”

Пачатак новага года — добры час для ўсялякага роду планаў і праектаў. Рэдакцыя „Зоркі” таксама падрыхтавала Вам, шаноўныя чытачы, навагодні сюрпрыз. Хочам з гэтага года вылучаць і ўзнагароджваць самыя цікавыя публіцыстычныя і літаратурныя творы нашых маладых журналістаў. Раз у квартал будзе друкавацца анкета, у якой усе чытачы змогуць назваць сваіх любімых аўтараў. Творчасць карэспандэнтаў будуць дадаткова ацэньваць вядомыя журналісты. Рэдакцыя мае намер дапамагаць у папулярызацыі дзіцячай твочасці (на беларускай мове) у часопісах Беларусі і лакальнай прэсе. У далейшым будзем ладзіць Сустрэчы „Зоркі” — журналісцкія і мастацкія заняткі, сустрэчы з вядомымі журналістамі і літаратарамі.

Наш праект пачынаем кароткай характарыстыкай творчасці ў 1998 годзе. На старонках „Зоркі” мы надрукавалі 135 допісаў, сярод якіх былі: справаздачы са школьных мерапрыемстваў, прэсавыя інфармацыі, рэпартажы, фельетоны, інтэрв'ю, літаратурныя спробы — паэзія і апавяданні. Найбольш плённымі журналістамі мінулага года былі: **Жанэта Роля** — вучаніца VIII „а” кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Міхась Сцепанюк** — вучань VIII „е” кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім і **Аліна Сіроцкая** – вучаніца VIII кл. ПШ у Чыжах.

**Самым цікавым журналісцкім творам 1998 года рэдакцыя „Зоркі” палічыла фельетон Жанэты Ролі „Элегантная дзівачка”.** Аўтарка разважае ў ім пра праблемы творчай індывідуальнасці. Артыкул насычаны аўтаіроніяй і дыстанцыяй да апісанай рэчаіснасці. Вылучаецца ён таксама цікавай структурай, унутранымі рыфмамі, ігрой слоў. Уражвае таксама шчырасцю мастацкага выказвання.

Другім артыкулам, які выклікаў шырокую дыскусію ў школьным і сяброўскім асяроддзі ды палеміку на старонках „Зоркі” быў польскамоўны допіс васьмікласніцы з Белавежы **Крысі Шчэрбы „Tajemniczy język”.**

Падобны рэзананс выклікаў артыкул **Міхася Сцепанюка „Нацыянальная свядомасць беларусаў”, у якім аўтар піша пра святкаванне і гісторыю 25 Сакавіка. Гэты артыкул скарысталі многія настаўнікі на ўроках беларускай мовы не толькі ў пачатковых школах, але і ў ліцэях.**

Артыкулам года рэдакцыя палічыла таксама інтэрв'ю **„Люблю глядзець як дзеці растуць” Аліны Сіроцкай.** Аўтарка ўзяла інтэрв'ю ў сваёй настаўніцы беларускай мовы. Размова ўражвае адвагай аўтаркі і цікавым зместам.

Аўтары артыкулаў года — Жанэта Роля, Крыся Шчэрба, Аліна Сіроцкая і Міхась Сцепанюк — атрымаюць узнагароды, самую цікавую кніжку апошніх гадоў на Беларусі — „Койданава” Адама Глёбуса. Віншуем!

Ганна Кандрацюк

# Ганула і Лідка



Хацела я зрабіць здымак малой Лідцы на руках у мамы, а мама яе, доктар Бася Пякарская, прыгарнула да сябе хутчэй і старэйшую Лідчыну сястрычку — Ганульку. Вядома, абедзьве дачушкі — яе, і кахае яна іх аднолькава.

Ганулька і Лідка — дашкольніцы. Яны ходзяць у беларускае аддзяленне прадшколля н-р 14 у Беластоку. Абедзве дзяўчынкі пайшлі ў прадшколле вельмі рана, калі ім было па два з паловай гады. Ганулька, можна сказаць, ужо ветэранка: яна тут ужо чацвёрты год, а Лідка — усяго другі, бо ёй толькі тры з паловай гадкі.

Мама іхняя з'яўляецца старшынёй бацькоўскага камітэта беларускага аддзялення гэтага прадшколля, шмат дапамагае выхавацелькам і настаўніцам.

Тут дзеці не толькі гуляюць, але і вывучаюць беларускую мову, знаёмяцца з беларускімі казкамі і гульнямі. Дзеці таксама бяруць удзел у пастаноўках мясцовых абрадавых сцэн, і Ганулька Пякарская няраз ужо бойка выступала на розных сцэнах, і нават у Беластоцкай філармоніі. Лідка яшчэ малая, але і яна хоча выступаць.

Ганулька — чалавек справядлівы. Калісьці далі ёй пільнаваць маленькую Нінку ў калясцы. Нінка — дачка бацькавых сяброў. Трымаецца моцна Ганулька за ручку калясці, а я падышла ды кажу: „Гэта мая дзяўчынка!”

Ганулька любіць праўду. „Не, не твая!” — абурылася яна. „А вось жа і мая!”, — упіраюся я.

Ганулька ад такой несправядлівасці аж пачырванела. Ды й голас у яе аж змяніўся. „Гавару табе, што не твая, значыць — не твая!” — адрэзала яна мне рашуча.

Ганулька і Лідка заўсёды прыходзяць з мамай і татам на розныя беларускія мерапрыемствы. Гэты здымак мне даваліся зрабіць, калі яны аглядалі выступленні сваіх старэйшых калег, якія вучацца ўжо ў школе.

Ада Чачуга

*Фота аўтара*

# Польска-беларуская крыжаванка № 4

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу 3 тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 52:** Права, паклонніца, румза, лад, каша, руіна, захоп. Парад, аркуш, алмаз, воз, манарх, Піліп, пацан, рада.

Узнагароды, **сегрэгатары**, выйгралі: **Марта Трашчотка** з Бельска-Падляшскага, **Паўліна Герасімюк** з Гайнаўкі, **Аліцыя Гацута** са Старога Беразова, **Эва Грынявіцкая** з Нарвы і **Анна Каліноўская** з Махнатага. Віншуем. Узнагароды можна ўзяць у рэдацыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

# Мая школа

Мая школа гэта Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. У нашай школе амаль 600 вучняў. Нашым дырэктарам з'яўляецца Яўген Сачко. У школу даязджаюць вучні з многіх вёсак і прыходзяць з горада Гайнаўкі. Будынак нашай школы новы, мураваны і вялікі. У нас ёсць прадметныя кабінеты, бібліятэка, камп'ютэрная зала, працуе школьная сталовая. Ёсць таксама гімнастычная зала, дзе праводзяцца заняткі па фізкультуры. У школе чыста і прыгожа. Я вучуся ў I „б” класе. Гэта клас з біялагічным профілем. У нас 30 вучняў: 22 дзяўчаты і 8 хлопцаў. Мне вельмі падабаецца мой клас. Тут многа вясёлых вучняў. Выхавацелькай класа з'яўляецца прафесар Аліна Пліс. Класным старастам мы выбралі Івону Гансяроўскую, а яе намеснікам — Бэату Яканюк. Я вельмі люблю хадзіць у нашу школу.

Ева Дзмітрук

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Podskok | ▼ | Przynęta | Bałt / Buława | ▼ ▶ | | ▼ | | ▼ | ▼ | Objętość | Obława |
| Etap | ▶ | | | ▼ | As | | Chińskie imię | | Włosek / Arab / Abakus | ▶ | | ▼ | |
| | Łapówka | Dać drapaka / Olej | ▶ | | ▼ | | | Las olchowy | ▶ ▼ | | | | |
| Chórzysta | ▶ ▼ | ▼ | | | | | Pięta | Powieść | ▶ | | | | |
| ▶ | | | | | | Oda | ▼ | As | ▶ | | | | Węch |
| Piołun / Bieganina | ▶ | | | | | ▼ | | Bochen | ▶ | | | | ▼ |
| ▶ | | | Duet | ▶ | | | | | | | | | |
| Raj | | Dzikie koniki | ▶ | | | | | | | Mech | ▶ | | |

# „Цябе, мая думка, Радзіма прытуліць...”

***(Згадка пра жыццёвы і трагічны лёс беларускага літаратара Тодара Лебяды — заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)***

У 1944 годзе выходзіць першы паэтычны зборнік Тодара Лебяды „Песьні выгнаньня”. Ва ўступе да яго напісана: „Беларускі народ многа перацярпеў гора і зьдзеку. Найбольш, аднак, прыйшлося цярпець за часоў бальшавіцкага панаваньня. Бальшавікі, накідаючы сваю волю беларускаму народу, жорстка прасьледавалі ўсіх тых беларусаў — сялян, работнікаў, інтэлігентаў, якія хацелі наладжваць жыцьцё ў Беларусі так, як хацеў беларускі народ. Бальшавікі саджалі беларускіх патрыётаў у вастрогі, канцэнтрацыйныя лагеры, высылалі ў далёкія азіяцкія краіны, адкуль бальшыня з іх ніколі ўжо не вернецца, бо яны не змаглі перажыць бальшавіцкіх зьдзекаў і тых жудасных абставінаў, у якія іх укінулі бальшавікі, і зламалі сваё жыцьцё, як ахвяру, на аўтар Бацькаўшчыны. Ёсьць, аднак, і такія людзі, якім удалося перажыць бальшавіцкія зьдзекі, вырвацца з бальшавіцкіх кіпцюроў і зьявіцца ізноў на беларускую ніву да працы дзеля дабра беларускага народу. Да гэткіх шчасьліўцаў належыць, між іншым, малады беларускі паэт Тодар Лебяда. Яму ўдалося вырвацца з бальшавіцкіх рук, захаваць жыцьцё і цяпер ён плодна працуе на беларускай культурнай ніве. Зборнік гэты мае вялікія мастацкія вартасьці і ёсьць дакумэнтам тых усіх жудасьцяў, якія мусілі перажыць беларусы ад бальшавікоў і да паўтарэньня якіх беларускі народ ніколі ня можа дапусьціцца”:

*Пад вакном за выцвілай, за брамай*
*Расцвітаў ізноў прыгожы май.*
*Трэці год, як сына ўжо забралі,*
*Трэці год, як роднага няма.*
*Як забралі — весці не пачула...*
*І на твары роспач і адчай.*
*Трэці год, як бедная матуля*
*Перастала спаці па начах.*
*Поўнач. Стукнуў хтосьці. Хто там?*
*Гэта сон... Але ж пасля сама*
*Выбягае хутка за вароты, —*
*Прыглядаецца... глядзіць вакол... няма.*
*Той жа ночы дзесьці на чужыне*
*Родны сын яе навек спачыў.*
*І дарма матуля варажыла*
*Пад акном сядзела ўначы.*

У 1944 годзе, у час адступлення немцаў, Тодар Лебяда рашыў уцячы на Захад. Ён добра ведаў і адчуваў, што яго зноў чакае турма, зноў чакаюць рэпрэсіі. Таму спачатку быў Берлін, а пасля Прусія, дзе ён, разам з жонкаю Верай Жгут, уладкоўваецца на працу да аднаго баўэра. Разам з імі быў і Уладзімір Клішэвіч. Як жылося і працавалася ім там, сведчыць адзін ліст Тодара Лебяды да Масея Сяднёва, які зьбярогся да сённяшняга дня: „Здароў Масей! Сёньня атрымалі ад цябе першы ліст і былі бясконца рады. Малайчына, што не застаўся ў Беластоку! Аб нас ты ўжо напэўна тое-сёе чуў. Жывем з Валодзькам (Клішэвічам — С. Ч.) у аднаго баўэра, працуем у яго: косім, чысьцім гной і гэтак далей, за што маем ад яго кавалак хлеба. Калі казаць аб нашым жыцьці, дык пра ўсё можна выказаць адным словам — сытыя. Больш нічога. Ніякай духоўнай стравы. Рана ўстаем, ідзем на працу, прыходзім з працы — вячэраем і кладземся спаць, каб заўтра ісьці ізноў на працу. Гэтак сама жыве і Віцьбіч. Ён толькі за чатыры вярсты ад нас. Пісалі мы некалькі лістоў у Бэрлін, але адказу не атрымалі, чым яшчэ раз пацьвярджае думку аб нашых беларусах: калі сам сыты, дык аб галодных не спагадае. Я гэта адчуў яшчэ на Бацькаўшчыне, а цяпер гэта лішні раз толькі пацьвярджаецца. Мы — беларусы такімі адносінамі (панскімі) да людзей дабіліся таго, што нам ужо мала хто й верыць, аб чымсь мы не казалі.

Вось мы сёньня радуемся з Валодзькам, што ты зараз у Бэрліне. Ты — не такі, як нашыя астатнія беларусы. Будзем спадзявацца, што ты дзе-небудзь, калі-небудзь і закінеш там за нас слова. Галоўнае — гэта, каб ты не забываўся пра нас і пісаў-бы нам лісты, дасылаў газэты (як мага акуратней) і па магчымасьці іншую літаратуру, бо мы зараз анічога ня маем. Атрымалі адзін нумар „Раніцы” ад сп. Караленкі, за што вельмі шчыра яму ўдзячны.

Учора я пахаваў сваё дзіця. Пасьля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам разабралі наш ложак і зрабілі маймў сыну маленькую дамавіну. Цьвікоў нацягалі са сьцен і з старых дошак.

Яшчэ раз просім цябе — пішы нам. Мы будзем пісаць як найчасьцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзька Клішэвіч.

Калі ты ўведаеш аб нашых паэтах Л. Случчаніну, Золаку, Алесю Салаўю, або ўведаеш, дзе зараз П. Манькоў, не забывай паведаміць. Устрой, Масей, для мяне, калі ласка, у „Раніцу” аб'яву: Шукаю дачку Аляксандру Шырокаву — 8 гадоў маці Настассю Паедаву, якія апошнія часы знаходзіліся ў мястэчку Лентварова Віленскай акругі. Паведаміць праз газэту „Раніца” — Тодару Лебядзе. Аб'яву гэтую перарабляй як хочаш. Я падаў толькі сэнс. Тодар Лебяда”.

Цяжка сказаць ці была гэтая аб'ява ў „Раніцы”, а вось невялікая рэцэнзія М. Сяднёва на зборнік „Песьні выгнаньня” была ў свой час надрукавана ў беластоцкай „Новай дарозе”.

Пасля Прусіі сляды Пятра Шырокава на пэўны час губляюцца, хадзілі толькі чуткі, што ён з'агітаваны савецкім афіцэрам вярнуўся да Басі Цыпінай і да сваёй дачкі Алесі. Але гэтае вяртанне шчасця яму не прынесла. У маі 1947 года Ваенным Трыбуналам войск МУС Мінскай вобласці па арт. 63-1 УК БССР Шырокаў Пётр Фёдаравіч зноў быў асуджаны, але на гэты раз на 25 гадоў:

*Алеся любая,*
*Дачушка дарагая,*
*Што так боязна*
*Глядзіш ты на мяне?*
*Сягоньня я*
*Надоўга ад'яжджаю,*
*А там, — магчыма, стрэнемся...*
*Мо не...*
*Я ручкі кволыя*
*Бяру сваёй рукою...*
*Сягоньня я... Ты плачаш?*
*Перастань!..*
*Пайду па вуліцы*
*Пад моцным пад канвоем,*
*Твой бацька,*
*Любы твой,*
*А сёньня — арыштант...*
*Я еду у край*
*Такі, што ты й ня сьніла,*
*Дзе многа, многа*
*Страшных мерцьвякоў,*
*Дзе кожны дзень*
*Капаюцца магілы*
*Дзеля замучаных,*
*Зьняволеных бацькоў...*

У якіх раёнах Сібіры адбываў свой тэрмін беларускі літаратар Тодар Лебяда, пакуль невядома. Вядома толькі адно, што 30 жніўня 1956 года ён быў вызвалены з-пад варты, але ў Беларусь вяртацца яму не дазволілі. Таму прыйшлося ўладкавацца цырульнікам у адным з пасялкоўых дамоў афіцэраў, а таксама працаваць на іншых работах. І толькі ў 1960 годзе ён прыязджае ў Слонім. Тут адразу стаў працаваць рэзчыкам паперы на кардонную фабрыку „Альбярцін”. А ў вольны ад працы час Тодар Лебяда шмат пісаў. Пісаў вершы, апавяданні і п'есы. Сёе-тое надрукаваў у слонімскай раённай газеце „Вольная праца”. Але пра свой псеўданім Пятро Шырокаў нікому не казаў, а таксама пра выдадзеную ім у 1944 годзе кнігу вершаў. Быў заўсёды маўклівы і даволі просты. Вельмі хацеў на фабрыцы стварыць драматычны гурток, каб ставіць свае п'есы. Дарэчы, у Слоніме ён напісаў п'есу у трох актах „У нас, на Гродзеншчыне”, прысвечаную вясковаму жыццю. У гэты час было напісана і некалькі аднаактовых п'есак. Адна з іх — „Людзі ва Хрысце” была надрукавана ў райгазеце „Вольная праца”.

Тодар Лебяда быў добры і апавядальнік. Асабліва яму ўдаваліся гумарыстычныя апавяданні і абразкі на маральна-этычныя тэмы.

Жывучы ў Слоніме, Пятро Шырокаў пачынае шукаць сваіх сяброў, у першую чаргу Уладзіміра Клішэвіча. Былы рэдактар „Нівы” Георгій Валкавыцкі захаваў і перадаў мне нядаўна пісьмо Пятра Шырокава ў „Ніву”, дзе ён, у прыватнасці, пісаў: „Паважаная рэдакцыя! Праглядаючы архівы Вашай газеты за мінулыя гады, я знайшоў у ёй надрукаваныя вершы майго блізкага сябра па Інстытуту Уладзіміра Клішэвіча, якога я лічыў загінуўшым у часы Другой Сусветнай вайны. А быў бы я Вам вельмі ўдзячны, калі б Вы паведамілі мне аб яго цяперашнім месцажыхарстве, альбо даслалі яму мой хатні адрас: БССР, Гродзенская вобласць, г. Слонім, пас. Альбярцін, вул. 17 верасня, д. 3. З нецярпеннем чакаю Вашага адказу. З пашанай Шырокаў Пётр Фёдаравіч. 2.V.61 г.” Просьба яго была рэдакцыяй выканана. Уладзімір Клішэвіч і Тодар Лебяда знайшлі адзін аднаго. Яны перапісваліся, а ў адным з пісьмаў да Клішэвіча Пятро нават хваліўся яму, што стаў ужо дзедам...

1 студзеня 1962 года Пятро Шырокаў звольніўся з работы і назаўсёды пакінуў Слонім. Ён прыехаў у горад Чэрвень Мінскай вобласці. Тут уладкаваўся працаваць... сакратар-машыністкай у рэдакцыю раённай газеты „Уперад”. Па-ранейшаму піша вершы, фельетоны, гумарэскі і п'есы. Друкуецца не толькі ў сваёй газеце, але дасылае творы і ў рэспубліканскія выданні. Праўда, падпісвацца ўжо другім псеўданімам — Клім Каліна.

У канцы 1962 года Тодар Лебяда пакідае Беларусь і ад'язджае ў Расію, на Разаншчыну, дзе ў яго была знаёмая жанчына. З ёю наш зямляк пражыў сем гадоў. Там ён пабудаваў дом, пасадзіў сад. Але гады сталінскіх рэпрэсій далі аб сабе знаць. Тодар Лебяда перанёс два інфаркты і на пачатку 1970 года памёр. Пахаваны ён у пасёлку Воршава Пуцяцінскага раёна Разанскай вобласці.

А да ўсяго гэтага трэба дадаць, што ў Чэрвені жыве дачка пісьменніка Ала (Алеся) Пятроўна Козел. Яна даслала мне шчырыя ўспаміны пра трагічны лёс бацькі. У адным з лістоў Ала Пятроўна напісала: „Бацька быў цікавы і шчыры чалавек, валодаў вялікімі гуманітарнымі ведамі, добра спяваў, у яго быў вельмі нізкі густы бас. Спяваў усе толькі беларускія песні „Ці ўсе лугі пакошаны”, „Ой, у полі вярба”, „Ой, пайду я лугам, лугам” і многія іншыя. Быў вялікім патрыётам сваёй Бацькаўшчыны, любіў усё беларускае: і зямлю нашу, і людзей, і народныя звычаі...”

**Сяргей Чыгрын**

# Ці польская культура запалоніць Беларусь?

У пачатку студзеня ў Мінску паявіўся першы нумар беларускага выдання парыжскай „Культуры”. А навесну мае паявіцца чарговы часопіс „Культура Польшчы” адрасаваны рускамоўным элітам Усходняй Еўропы. Гэтыя два штомесячнікі маюць шанс паўплываць на будаванне ўзаемаразумення з усходнімі суседзямі Польшчы. Хто ведае, ці ў перспектыве дзесяцігоддзяў іх прысутнасць не стане важнейшаю ад многіх шумных дэкларацый і дыпламатычных сустрэч.

Сімвалічнае значэнне мае і факт, што абедзвюм ініцыятывам пратэжыруюць інтэлектуалы з асяроддзя парыжскай „Культуры”: апекуном беларускага выдання „Культуры” будзе Ежы Гедройц, які асабіста падабраў артыкулы ў першы нумар, а галоўным рэдактарам „Культуры Польшчы” будзе праф. Ежы Памяноўскі. Абодва яны паклалі вялікія заслугі для польскай усходняй палітыкі.

Абедзве ініцыятывы знайшлі падтрымку з боку польскай дзяржавы. Беларускае выданне „Культуры” падтрымліваць будзе Польскі інстытут у Мінску, а „Культуру Польшчы” — Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве. Вартае ўвагі таксама і тое, што ў падрыхтоўцы новых выданняў будуць удзельнічаць аўтары з суседніх Польшчы ад усходу краін. І так „Культуру” рэдагаваць будзе група інтэлектуалаў засяроджаных вакол мінскага пісьменніка і філосафа Ігара Бабкова. Выдаваемыя ім з восені 1996 года „Фрагмэнты” з'яўляюцца адным з цікавейшых выданняў прысвечаных сярэднееўрапейскім праблемам; дзякуючы ім беларуская інтэлігенцыя пазнаёмілася з творамі Герберта, Шульца, Гамбровіча і Мрожака. Супрацоўнікамі „Культуры Польшчы” будуць беларуская, расейская і ўкраінскія аўтары і перакладчыкі.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Наша пошта

***Дарагія суродзічы, беларусы і ўсе нашыя прыяцелі!***

Лістом гэтым першы раз афіцыяльна паведамляецца, што арганізацыя Джона і Алісы Пятроўскіх „Беларускі Адукацыйны фонд у Гейнсвіле” з прычын ад нас незалежных з днём 16 траўня 1998 г. афіцыяльна спыніў сваё існаванне. Але наша дзейнасць, як людзей, працягваецца неафіцыяльна далей.

Гэтыя ўспамянутыя прычыны — гэта, бадай у адным тыдні смерць гаспадарыні Алісы Пятроўскай і нашага сына, доктара Юрыя Пятроўскага.

На працягу ўспамянутага часу і перад ім фонд выдаў болей 30 розных памераў друкаў на беларускай мове і часам у ангельскай. Увесь гэты высілак атрымаў аграмадную колькасць лістоў падзякі і значную фінансавую ўспамогу. За што на гэтым месцы яшчэ раз выражаю ўсім глыбокую падзяку.

З прычыны Сьвятаў і Новага 1999 году віншую Вас і прымеце добраслаўленне ад Бога і Нябёсаў.

**Ваш Ян ПЯТРОЎСКІ**
**Каляды 1998 год**
**Гейнсвіл, Амерыка.**

PS. Да ўсяго вышэйсказанага хачу дадаць, што зараз друкуюцца кнігі: 1000-бачынны нямецка-беларускі слоўнік і „Мінулае і прышлае”.

**Я. П.**

# Міхасёвы Каляды

Была ўжо амаль дзевятая вечара, калі васьмігадовы Міхась вярнуўся дахаты. Дзверы адчыніў айчым (маці працавала сёння на начной змене), але ў хату яго не ўпусціў. Зароў не сваім голасам: „Дзе бадзяўся?!"

Хлопчык, стоячы на парозе, аж задрыжаў увесь. „У бацькі быў...", — ён не думаў, што за гэта айчым скочыць да яго, як звер. „Ага, у бацькі, кажаш? Да гэтай пары? Ну, дык і ідзі да яго! Вяртайся, чуеш?!" — і ён трэснуў дзвярыма перад носам разгубленага дзіцяці.

Што было рабіць? Міхась выйшаў на двор. Не ведаў, куды падацца. Ужо цэлы месяц ён штодзень пасля школы заходзіў да бацькі, а яго ніколі не было дома. Малы ніяк не мог прымірыцца з чужым дзядзькам, якога маці загадвала яму называць татам. Навошта? У яго ж тата ўжо ёсць.

І вось сёння хлопцу пашанцавала застаць бацьку ў хаце. Праўда, быў ён, як заўсёды, выпіўшы, але сына прыняў і пагаварыў з ім. Але ці ўпусціць яго цяпер, на ноч гледзячы...

Малы яшчэ нейкі час пастаяў нерашуча каля блёка. Не меў нават грошай на аўтобус, а без білета баяўся ехаць. Але вось ён выцер рукавом плывучыя няспынным струменем слёзы і пайшоў пяшком у напрамку раёна, дзе жыў бацька. Чужы, непрыветлівы зімовай ноччу горад абыякава паглынуў кволую постаць хлапчука. Ён ішоў і ішоў, а да бацькі ўсё яшчэ было далёка. Стараўся не думаць, бо як толькі пачынаў успамінаць сваё кароценькае жыццё, з вачэй ізноў ліліся слёзы.

Ён нават не вельмі разумеў, чаму мама пэўнага дня, узяўшы яго і пару сумак, адышла ад бацькі. Праўда, часамі Міхась чуў нейкія сваркі, прэтэнзіі маці, што бацька не вярнуўся нанач, але няшмат ува ўсім гэтым арыентаваўся. Ён любіў прытуліцца да бацькі, бо тады адчуваў сябе моцным і вялікім, і нават прывычны пах гарэлкі, які ішоў ад бацькі, яму не перашкаджаў.

Міхасёк вельмі плакаў, калі мама сказала яму, што яны з бацькам развяліся. У нанятым цесным пакойчыку было няўтульна і непрыемна. Уначы хлапчук моцна туліўся да мамы, і тады яму было не так страшна. Калі маці працавала ўначы, дык заглядала да яго гаспадыня кватэры.

І тады яшчэ было добра... Па шчоках дзіцяці зноў пацяклі слёзы. Стала горш, калі мама зноў выйшла замуж. Міхасёк меркаваў, што зможа і айчыму ўзлезці на калені, як калісьці бацьку, пагаварыць пра школу і сяброў, але той быў халодны, як камень.

Не любіў айчым дзяцей, а мо толькі яго, Міхася. Хаця... чуў, як калісьці маці папракала яго, што блытаюцца па свеце ягоныя дзеці. Значыць, і іх не любіць... Міхаську стала лягчэй.

Айчым ніколі не біў яго, але часамі лепш было б, здаецца, каб налупіў, але не гаварыў нічога. Усё яму было не так, што б Міхась не зрабіў. Асабліва не любіў, калі малы задоўга сядзеў на кухні. Чаго ён баяўся? Што ён паз'ядае ўсё з лядоўкі?.. Не, найчасцей не было там нічога смачнага. Жылі яны вельмі скромна і пакупкі рабілі адзін раз у тыдзень, а пасля ўжо дакуплялі адно хлеб.

Міхасёк умудраўся аднак смажыць сабе бульбу, смажыў яе штодзень, а на гэта ішло шмат алею, ды і пырскала навокал. Айчым не вытрымаў, узлаваўся. Пятнаццаць мінут даю табе на прабыванне на кухні, сказаў ён малому. А як жа было яму паспець усё падрыхтаваць і з'есці... Ад гэтага часу мама, калі і выходзіла на працу, старалася яму падрыхтаваць нешта, каб ён мог з'есці адразу, гатовае.

Зрабіўшы ўрокі, Міхасёк мог бы паглядзець тэлевізар, але айчым не выпускаў са сваіх рук „пілота", змяняючы каналы паводле сваіх упадабанняў. Калісь хлопец папрасіў яго пераключыць тэлевізар на нейкі дзіцячы квіз, дык айчым так узлаваўся, што ўжо ён і не рады быў той праграме. І так неяк выйшла, што атрымаў ён дазвол на агляданне тэлевізара на працягу... адной гадзіны ў тыдзень.

Куды ж яму было падзецца? І тут нельга, і там нельга... Хлопец стараўся сыходзіць айчыму з вачэй, калі мамы не было дома. Каб зарабіць грош, яна часта брала дадатковую працу. Бадзяўся тады малы па вуліцах, а часам заходзіў у салон іграў, прыглядаўся, як гуляюць яго старэйшыя калегі са школы. Во, каб і мне калісь выйграць, марылася яму. Але каб мець нейкі шанц, трэба было ўкінуць у машыну пару злотых на пачатак. А няраз пастаяў Міхасёк і каля кіёска з півам, прыслухоўваючыся да гутаркі п'яніц, якія пілі тут рэгулярна, штодзень. Прынамсі не адчуваў сябе тады адзінокім.

Перад калядамі хлопцу так хацелася ўбачыць бацьку. Мо ён бы даў нейкі падарунак на свята... Мама сказала, што прызначыла яму ўсяго пяць злотых. Чакаў цяпла, якога не знайшоў у хаце айчыма, але і дзверы бацькавай кватэры, у якія Міхасёк стукаў і званіў, былі глухія і непрыступныя.

І вось сёння... Сёння Міхась застаў свайго бацьку і быў такі шчаслівы, што пабачыўся з ім. Забыўся нават, што было ўжо так позна. Ці прыме ён цяпер яго нанач, калі айчым прагнаў яго з дому... Ад гэтага непакою слёзы зноў пацяклі на дзіцячым тварыку.

Хлопец яшчэ хліпаў, калі пазваніў у бацькавы дзверы. Было ўжо вельмі позна, калі ён дабраўся ў гэты раён горада. Бацька аж перапужаўся, убачыўшы сына ў дзвярах. Хаця ён не ўпіраўся, калі суд выхаванне дзіцяці прысудзіў маці, то Міхаська па-свойму любіў. Праўда, грашыма ён таксама не раскідаўся (у бацькі былі свае патрэбы), але ж лічацца і пачуцці.

У бацькавай хаце, якая была калісьці і яго, Міхасёк адчуваў сябе добра. Хаця і быў тут непарадак, але бацька зрабіў яму гарачага чаю і нацёр гарэлкай ногі. Нарэзаў каўбасы і хлеба, а калі малы пад'еў, загадаў яму класціся на сваё месца, а сам лёг на канапу.

Назаўтра ўсе людзі святкавалі Каляды. Дзесьці падзеўся бацька, але прынамсі Міхасёк мог заглядаць у лядоўку і ўдосталь глядзець тэлевізар, лежачы на канапе.

**Ада Чачуга**

**На лавачцы ў Нараўцы**

# Што сказаў бы я, калі б прыехаў...

— Ты адкуль сама? — пытаюцца мяне мужчыны, што сядзяць яшчэ цёплаю парою на лавачцы за крамай у гміннай Нараўцы. Крышку змылены яны маім рукзаком на спіне — ці то не тавар нейкі прывезла? — З Беластока? А, то іншая справа. А то думалі, што з усходу, то вядома, якую справу магла б мець да такіх харошых хлопцаў! Пытаешся, як нам туж жывецца?

Анатоль, Тадэк, Коля... Сямёх іх тутака. Ці важныя імёны? Напішаш у „Ніве"? Аднаго бацька, што ў Гайнаўцы жыве, то „Ніву" купляе штотыдзень, сын — толькі тую з календаром абавязкова набывае.

— Кепска дзеецца ўвогуле. Кожны робіць што хоча і што можа. Ну, хто тут *жондзіт*? Ніхто. Nie ma roboty — гэта нас абыходзіць. Німа. Таму і сядзім. А *налева* зарабіць — мы ўжо не спецы. А пра пушчу ты лепш не пытайся ў нас! Мала што работы не будзе! Не будзе і апалу, нічога! Хоць жывым у зямлю лезь або бяры камень і бултых у Нараўку! Найгорш — работы няма. І дзе тут будзе добра. Кажуць, мае быць добра. *Нігды* не будзе добра. Мы павінны рабіць, а не сядзець тутака.

— Бачыш, будзем мусілі вугаль купляці, абяцалі газіфікацыю, але хіба таго не дажывем... Запісваеш гэта, не?.. Кажу табе праўду: мы лясного матэрыялу не прадаемо. Нам абы каб дроў заготовіць, абагрэцца. Мы лес чысцім. Але скажу табе праўду: ёсць і рабунковая гаспадарка — хто больш грошай дасць, той лепшае дастане. А вугаль мы сабе не ў змозе купіць.

— Дзе раней мы працавалі? Дзе ўдалося. Думалі, што гэта партыя штосьці нам дасць, але гэта бачым — *wątpliwa sprawa*.

— Я хаджу ў гміну, чакаю. Гміна нас ратуе інтэрвенцыйнымі работамі. Калі шукаюць, то больш мужчын патрабуюць. Штосьці на будове...

— Усе мы тут да сарака гадоў. Ні стары, ні малады. Якая будучыня, што тут планаваць, аб чым марыць!?

— Я вось работы не маю ад двух гадоў. Жонцы „куранюўка" канчаецца, а радзіну трэба аднак выкарміць. Прыйшоў во сюды, то людзі паставілі паўлітра, бо добры з мяне калега. Людская справа. Вы там з Беластока прыехалі, то там, ведаеце, там можа яшчэ горш чым у нас. А мы тут вось збіраемся, курымо, бо ці выседзіш у хаце без работы? У тэлевізар будзеш дзівіцца? Прыйдзеш, от, пагаворыш з чалавекам. Кампот маем папіць, пачастуецеся? На свежым паветры добра. Рэстаўрацыя пад бокам, але там нельга закурыць. А тут сябра пачастуе, калі мае. Бо за што я маю купіць папяросу? Гы-гы-гы.

— Мне 25 гадоў. Працаваў крыху ў гміне, маю куранёўку.

— А я маю добрую прафесію, сантэхнік. Але ўжо з 1983 году па прафесіі не рабіў.

— А я — піларкай, такаркай — усё магу. Але я ўвогуле непатрэбны грамадству.

— А ён — гутнік шкла, а гэты во — *рольнік* дыпламаваны... — У мяне — *zawód drzewny*. Аднялі ў нас, у мяне лес! Цяжка тут моладзі...

— Не гавары тут пра моладзь! Сорак год — ці гэта моладзь?!

— Яшчэ якось выжывеш, калі пры бацьках. Сядзелі б без грошай, калі б не тата з мамай. Калі б за мяжу збірацца працы шукаць, то яшчэ кавалерам можна. А як тут сям'ю пакінеш, каб выжыць, а там невядома, ці зачэпішся?.. Такіх як ты там і сваіх многа...

— „За камуны", як то гаворыцца, то было яшчэ сяк-так. Ну, але хто цяпер *жондзіт*? Мафія.

— Э-э-э, давай мы самі зробім якую мафію. Пойдзем пад склеп, шыбу выб'ем, будзем браць, бо не маем што есці. *Спірт ест*. Арыгінальны. У Польшчы ўсё арыгінальнае...

Сёння, знаеце, я пабаранаваў крыху, то мама дала крыху на спірт. Пабараную яшчэ, можа, яшчэ што дасць...

— Я рабіў паўтара месяца ў „прывацяжа", па шаснаццаць гадзін у дзень. Ён мяне, вядома, не ўбяспечыў. А калі разлічыцца прыйшло, то кажа: для тых, што „на сталэ" затруднены, то будуць пяцісоткі і соткі, а для мяне — *ніц*. Мы ў тры чалавекі рабілі за сямёх. Пасля тыдня работы жонка мяне не пазнавала, так нацягнуўся. Выйшла, што я дарам яму два месяцы рабіў! Гэта мае быць прыватызацыя? Звальняюць. А што дасі дзецям есці? П..., красці трэба будзе, ці што? То нашто я вучыўся?! Э-э-э, вы, пэўна, чуеце такое на кожным кроку. Слухаць ужо нецікава.

— Больш цікавага іншыя вам скажуць, нам тут невясёла сядзіцца, калі нават ёсць што выпіць. Прыедзьце, калі які фэст будзе, больш людзі раскажуць...

— Можа, Цімашэвіч або іншы прыедзе. Падыду, можа, сказаў бы яму...

— Што табе з ім за размова! Ён паляк, ты беларус. А ці ён прыедзе на тое, каб з табою пагаварыць? *Абядэк* з'есць у сваёй кампаніі. Цябе нават да яго не дапусцяць.

— А чаму не? А што мне зрабілі б? Як я нікому нічога кепскага зрабіць не хачу, то не забілі б, не? Нашто тая абстава? У нас жа ў Нараўцы людзі добрыя, няма чаго нікому баяцца.

— О, ты е мазур, то можа дагаварыўся б з ім.

— Вон католік, таму мы на яго кажам „мазур". А дзе наш „парэхрыст" падзеўся? Сёння не прыйшоў? У нашай кампаніі тут усе свае. Во так гаворымо, як пазбіраемся. А ведаеце, нават „навалач" тут паявілася, так тут іх называемо. Таксама наша старана. Вось з Ціхаволі адзін прыехаў, шчасця шукае. Хіба лепш яму тут чым там, у Лукашэнкі?

**Міра Лукша**

# Не так быць павінна

**Адгалоскі**

Тое, што кіруючая кааліцыя адмоўна ставіцца да праблем беларускай меншасці на Беласточчыне з'яўляецца фактам. Прыкладам гэтаму можа быць ўстрымманне пабудовы помніка ў гонар памардаваных вазакоў у Бельску-Падляшскім. Ганна Кандрацюк у сваім рэпартажы „Закалот вакол помніка" („Ніва" № 51 ад 20 снежня 1998 г.) паказвае, як да справы пабудовы помніка ставіцца беластоцкі ваявода.

Не здзіўляе мяне факт, што ваявода Крыстына Лукашук намагаецца выкінуць некалькі сказаў з мемарыяльнай дошкі аб злачынстве вайскоўцаў „Бурага". Гэта не быў бы зараз гонар для палітыкаў правага лагера. Гэта ж яны намагаліся ў Сейме прысвоіць усім салдатам антыкамуністычнага падполля званне ветэранаў. Значыць, трэба зараз усялякімі сіламі хаваць ад грамадства злачынствы „герояў" на нявінным праваслаўным народзе!

На маю думку, калі правыя палітыкі імкнуцца асудзіць адказных за ўвядзенне ваеннага становішча ў Польшчы і прызнаць іх вінаватымі ў смерці шахцёраў, дык у выпадку памардаваных праваслаўных людзей (у тым ліку жанчын і дзяцей) таксама нельга маўчаць, а толькі гаварыць людзям праўду!

Колькі ж людзей шукае месцаў спачыну астанкаў сваіх блізкіх, якія загінулі з рук жаўнераў „Бурага"? Піша аб тым у допісе „Незабытае" Мікалай Лук'янюк у 52 нумары „Нівы" ад 27 снежня мінулага года. Па сённяшні дзень ён не ведае, дзе пакоіцца прах ягонага брата. І таму гэты чалавек мае маральнае права паставіць пытанне: ці так павінны паводзіць сябе чыноўнікі дзяржаўнай адміністрацыі?

**Кастусь Млынарскі**

# На руінах

**Успамінае дзевяностагадовая Марыя КУЗЬМА з вёскі Лясная Нараўчанскае гміны.**

Сагналі нас усіх у пераходны лагер у Вроцлаве. Апошнія дні вайны былі, бай астатнія. Нагналі столькі народу з лагероў, з работ — тысячы! Я з сям'ёю, з дзецьмі, з маткай тры гады ў Нямеччыне была рабіла... Сагналі нас у такі раён, што наўкол толькі разваліны, руіны, адно брама цэлай засталася.

А такія енкі, такі лямант — людзі, дзеці плачуць вады, а вада... бяжыць проста па вуліцах. Вадапомпу якраз разбілі, кажуць, вада атручаная, нельга яе чапаць. А ўсе ад смагі гінуць, і думка адна, што нас тут усіх кончаць. А тых стражнікаў чатырох стаіць у той браме, кудою цяжкія машыны праязджаюць. Людзей як маку... Малых, старых... Гляджу на аднаго немца, на яго пагоны — заслужаны, а сам маладзюсенькі. Ідзе — я за ім. А мая мама сядзіць каля майго меншага, народжанага ў трыццаць дзевятым — ён ужо нам ссінеў, так без вады яму кепска... Уміраць будзе... Я за тым немцам, ззаду, за ім... У цемры бачу — нейкі сівы коц вісіць, пад ім двое старэчаў сядзіць, святло нейкае б'е ў тунелях. Кажуць старыя немцы таму маладому: „Глянь, а хто ў цябе ззаду стаіць?!" Я ўсё разумею, кажу па-нямецку: „Не бойцеся". — „А чаго ты хочаш?" — „Мой *юнг* умірае, вады яму трэба". — „Дайце трошкі вады", — кажа малады немец; пэўна, бацькі гэта былі ягоныя. Яны патарабанілі ў бак, кажуць, што і ў іх вады няма. Усё ж нацюркалі мне трошачкі. Вайсковец кажа: „Я буду ісці спераду, а ты — за мною. Я выйду, а ты пастой яшчэ крыху, каб ніхто не бачыў, што мы разам ідзем".

Я хутчэй бутэльку маме: нацэ, пойце. А тут людзі рушылі да мяне: адкуль ваду ўзяла?! У цыстэрнах жа вада атручаная! Я падышла да тых немцаў, што стаялі ў браме, гляджу па-за імі — а там лонкі відна, даліну, волю! А вада гудзе па тратуары. Кажу немцу: „Дайце вады! Мы на вас столькі працавалі! Дзеці нашыя ўміраюць, вады просяць... З нашых гаспадарак тое ў нас засталося, што на плячах, а мы ж мелі дамы, кароў, коней... Нас сагналі вы сюды тысячамі, дайце нам хоць перад смерцю напіцца. Пасля можаце нас усіх, і дзяцей нашых — пабіць". — „Нэйн, нам нельга". — „То скажыце, што з намі зрабіце! Біце адразу!" Я тады была такая цянюткая, толькі што выйшла з бальніцы, страшныя атакі болю пячонкі мяне ў крук сагнулі... Стаю такая маленькая перад тымі ўзброенымі немцамі. „Я свайго шаснаццацігадовага сына, такога як і вы, аддала ў акопы, не ведаю, ці ён жывы... Дайце вады! Жыццё і так усё страчана наша. А не — то мы самі вас паб'ём!" — „А як ты нас паб'еш? У нас жа ж ружжо!" — „Вы нас усіх не паб'еце. Вось колькі *манаў* нашых стаіць. А хоць бы і штыкетамі!" А нашым мужчынам кажу: „Ламіце штыкеты, будзем іх страшыць, я пайду папярод". Сабралася дванаццаць нашых, сталі мы перад стражнікамі... А тая вада рвеццa па тратуарах, па вуліцы, а піць не можам! Такая пакута! Ступілі мы пару крокаў. Тыя — лясь-лясь! — ружжом. Ано даць залп — і ўсё з намі. Кажу хлопцам: „Пастойце, я яшчэ з імі пагавару". З пяць крокаў яшчэ ступіла. І ўсё да аднаго немца звяртаюся, а тыя трох — ані слова. „Ці магу яшчэ падысці?" — „Ja, kommen". Я цап яго за руку, гляджу яму ў вочы, усміхаюся: „Дайце вады!" — „А як жа тую ваду вам даць? Як напаіць столькі народу?" — „Калейка! Разумееш, што токое чарга? Як пяць чалавек, то будзе дзесяць вядзёр. А калі дзесяць чалавек, то..." — „Ja, ja..." — „Кідайце сваё ружжо, ідзіце па вёдры".

Мяне паставілі ў той вадзе, а яна бяжыць, такая цёпленькая, сонца якраз з поўдня свяціла. „Ты будзеш першая, каго заб'ем, калі твае будуць уцякаць!" — „А хто тут будзе ўцякаць, калі тут сем'і, дзеці... Але ці я іх упільную?.."

Людзі пачалі браць тую ваду. Крычыць немец: „Не піце гэтае вады, спачатку яе зварыце. Ламіце платы, раскладвайце агонь!" Усе платы палеглі. У пяці месцах распалілі агні. Людзі прынеслі маім дзецям кубачкі, хлеба, вады...

Зранку не было ні немцаў, ні вады. „Людзі, уцякайце хто куды!" — адзін вялікі крык. Мы разбегліся, адзін аднаго не бачачы. У бункеры, у разваліны.

Сядзелі мы пад якімісь трубамі. А перад намі — вайна. Пад адной сценкай — рускія байцы, пад другой — нямецкія. І за кожную адну сценку біліся. Гэта аж немагчыма расказаць! Кацюшы б'юць па мурах — бух! бух! — усё ў агні. Малы мой вельмі ж крычаў: „Дзе тата?! Дзе тата?" Занялі нас рускія, разбіралі, уцягнулі ў якісь дом. А на трэцім паверсе — немцы. У паніцы выбегла адна жанчына. То выбяжыць, то зноў вернецца, нікога не слухае. Трэці раз выбегла, немец з акна — пах! У апошні дзень вайны загінуць... Бабы ў плач. Я выйшла, прашу таго, што з камяніцы страляў, па-нямецку: „Не трэба страляць! То ж усенька Бог бачыць! Мы ж столькі год на вас рабілі! А гэтая ж жанчына — нямецкая *фраў*, і яшчэ адна тут з намі ёсць, бо мы тут усе, цывільныя, перамешаныя!" Бачу, перабег той немец доўгім акном. Кажу людзям: „Бярэце свае гаспадаркі на плечы, пойдзем. Не плачце! З намі Бог. Я з радзіваю сваёю пайду спераду". Усе пабралі клункі, мой чалавек узяў малога... Пайшлі.

Ішлі мы з самюткага рання ў тыл. А там стаялі рускія штабы. „Ежели польский — пройдёшь, ежели русский — пропадёшь", казалі тады. Майго чалавека ўзялі на расстрэл. Я з мамай папаўзла на каленях да тых саветаў, каб яго пакінулі пры жыцці. Пусцілі, але, кажуць, праз тры кіламетры зноў яго затрымаюць. Адзін старшына нас асцерагаў, адчайваўся: „Матка маладая, і ты таксама такая маладзенькая, памардуюць па дарозе пад корчыкамі!", ды правёў нас далёкаю дарогаю, каб абысці наступны пост...

Схаваліся мы ў адным бункеры. Ноччу мусіла я выйсці, не буду ж мачыць клункаў, усе людзі на падлозе спяць. Па ўсходах сышла, а тут хтосьці — топ-топ! — ходзіць. „Хто ты?" — „Руская. Але пусці мяне, мушу выйсці за патрэбай. А там мая сям'я, нас там многа, у бункеры начуем. Толькі схавай гранату, не палохай нас". Ён увайшоў, пытаецца, дзе мая сям'я, дзе муж. Дастаў бутэлечку гарэлкі, наліў мужу. А той не хоча. Выпі, выпі, кажу майму. Клыкнуў. І сам рускі клыкнуў. І кажа: „Як будзеце праходзіць праз пасты, калі будуць цябе затрымліваць, кажы, што ты — паляк". Так і застаўся мой муж у жывых, прыкінуўшыся палякам... Праўда, усё ж загналі яго яшчэ руіны разбіваць, парадак наводзіць на развалінах. Вярнуўся дадому амаль праз паўгода пасля нас, увесь апухлы і хворы. Усё ж, жывы.

Дзве войны пражыла, і ў хаце вынужыла, і трэба ўміраць, бо і не? Дакументы з таго часу пагубілі, сведкі паўміралі. Хто за пакуты ў Нямеччыне нейкі грош дастаў, бы можна было за такое заплаціць! Але і гэтага я не маю, бо не залатвіла. Але што мне тыя грошы, калі я сонца не бачу...

Запісала Міра Лукша

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 32**

У 20 нумары „Нашай нівы" за 1910 год у рубрыцы „З Беларусі і Літвы" былі змешчаны аж тры інфармацыі аб жыцці беларусаў Сакольскага павета. Першая з іх была падпісана літарай Ю., другая літарай М., трэцяя літарамі Ю. М. Першая адносілася да Крынак. Вось яе змест:

„М. Крынкі Гродзенская губерня, Сакольскі павет. Мястэчко гэто вельмі пекнае. Ёсць цэрква, касцёл, шмат крамаў, бойня і колькі гарбарняў. Што чацвер збіраецца многа народу на торг. Мова тут, ці то праваслаўны, ці каталік або і жыд — чыста беларуская, прадзедаўская, ажно ўцеха бярэ!

— Нядаўна выслалі адгэтуль трох хлопцаў на адсадку ў фартэцыю".

Вельмі панурая карціна грамадскага жыцця прадстаўлена ў інфармацыі, якая адносіцца да Сакольскай вёскі Слоя.

„В. Слоя Гродзенская губерня Сакольскі павет.

Зямля, а і сенажаці тутэйшыя вельмі добрыя, але, каб выкарыстаць з іх тое, што яны могуць даць, трэба ведаць новыя спосабы гаспадаркі, а тутэйшыя сяляне не чытаюць ані кніжак, ані газэт, каторыя даюць рады ў гэтай справе, дык не дзіва, што між іх шырыцца дзіч да таго, што самі чуць не звярамі парабіліся, зладзейство тут пануе страшэннае: адзін у другога крадуць коні, каровы, а то і снапкі з поля".

Трэцяя інфармацыя адносіцца да мясцовасці Баркі з Сакольшчыны.

Ананімны аўтар піша:

„В. Баркі Гродзенская губерня Сакольскі павет. Не так даўно казна давала тутэйшым сялянам лесу на школку, але яны не захацелі тады гэтым займацца. Цяпер агледзеліся, што без школкі дрэнна і шлюць прашэнне за прашэннем але ўсё адказ ды адказ.

— У нашай вёсцы пайшла мода на п'янства паміж кабет; калі каторая і ўпіраецца, дык яе саджаюць на воз і саматугам цягнуць на выпіўку, — там яна павінна адкупіцца за гэту фатыгу квартай гарэлкі. Таўкуцца нашы сяляне як марк па балоце, а што было б праўдзіць вуліцу каменнямі, каторыя скрозь валяюцца".

Напэўна шаноўныя чытачы „Нівы" памятаюць, што ў „Нашай ніве" з 1906-1909 гадоў было вельмі многа звестак з Бельскага павета. Такога тыпу інфармацыі амаль цалкам не выступалі ў „Нашай ніве" з першай паловы 1910 года. Прычыны такога стану рэчаў — невядомыя.

Аднак у 32 нумары тыднёвіка „Наша ніва", які выйшаў 5 жніўня 1910 года інфармацыі аб Бельшчыне паявіліся ізноў. І так вядомы ўжо нам Халімон з-пад Пушчы змясціў даволі абшырны артыкул аб Бельску. Вось яго змест:

„У нашым горадзі закрыліся мужская і жаночая прагімназіі А. І. Бабылёвай. Столькі працы, столькі сіл паложана на тое, каб гэтыя прыватныя прагімназіі адкрыліся і выраслі — але ж мусілі закрыцца. Прадстаўніцелі Міністэрства народнай асветы ўвесь час не падтрымлівалі гэтае чыстае зерне. Яны толькі рабілі ўсё перашкоды, каб ім не даць правоў казённых прагімназій. Усё жыццё, што было ў Бельску было сваркай, сплёткай, смуродным балотам... Дык вось жменя жывых людзей сабралася каля прагімназій А. І. Бабылёвай з самымі добрымі мэтамі і пачала працаваць, аддаючы свае сілы на ўзгадаванне новага пакалення. Але ж бельскае балота ўсё смярдзела і смярдзела. Дык прагімназіі павінны былі закрыцца. Бельскае балота зусім завалакло плесняй і ўжо так яно нудзіць, нудзіць! Мёртвае поле сярод людзей наводзіць страшэнную нуду. А ўжо бывала, калі дзеці гэтых жа самых людзей збяруцца на вечарынку, дык самы бацькі былі рады за сваіх дзетак. Самую Бабылёву ўсе вучанікі і дзяўчаткі любілі як родную матку. Маленькія дзеткі таксама не хочуць расставацца з ёй, бо яна была праўдзівая вучыцелька, каторая знае душу „маленькага чалавека". Шкада, што ў нашай старонцы не можа быць нічога жывого, праўдзіваго, добраго".

Добры і смелы артыкул.

Алесь Барскі

# Спаў, але ўсё чуў

У бежанства ў Расію мама падалася сама з дзяцьмі; трое нас было — я і двое малодшых. Тыя малодшыя ў дарозе паўміралі, бо якая гэта дарога была!.. А і з тых людзей, што пакінулі нашу вёску, палова ў бежанстве памерла; вярнуліся няшмат. Мы даехалі поездам толькі да Саколкі, на прадвесні 1919 года. У Саколцы тата купіў каня і воз, бо старыя царскія грошы яшчэ хадзілі. І гэта было вельмі добра, бо ўжо калі ў 1922 годзе з бежанства вярнулася сям'я майго будучага мужа, дык царскія грошы ўжо страцілі важнасць і трэба было прадаваць тое, з чым прыехалі.

Мы прыехалі ў Рахвалаўку, там чварак распадаўся, але эканом дазволіў пасяліцца ў ім. Дылі ў сценах расходзіліся і зімою ў хату капец снегу надувала, а паліць не было чым. Калісь там быў фальварак, але за вайну будынкі парасцягалі, і мала што асталося. Жыў там яшчэ адзін рускі, з якім мой бацька лес, „шосткі", у Беласток вазіў, і адзін мазур з Тыкоціна.

Адной раніцы будзіць рускі тату:

— Я ўжо каню даў, а ты што?

А тата ўжо зведаў, што ні каня, ні воза няма. І маці кажа таму рускаму:

— А хто ж гэта зрабіў, як не ты?!

— У каго згуба, у таго граху поўная губа, — адказаў ёй.

А яго сынок кажа нам:

— Не шукайце, мой бацька ўкраў і Ютку аддаў!

Тады нашы на паліцыю ў Заблудаў. А тады не тое, што сёння, — паліцыянт з Заблудава пяшком ішоў. Прыйшоў і пытае таго малога, дзе быў.

— Я нібы спаў, але ўсё чуў. У нас былі... Столькі і столькі чалавек...

А ў нас у той час мой браток быў нарадзіўся, і газнічок у хаце гарэў. І той рускі тады падаслаў сваю дачушку, старэйшую ад сынка, каб пабачыла, што ў нас. Яна пабачыла і сказала:

— Сядзяць у хаце.

Тады яны ўсё і зрабілі. Паліцыянт прыказаў, каб той рускі не чапаў сына. А мы зноў прасілі паліцыянта, каб рускага не саджаў, бо хто будзе яго дзяцей карміць...

Тата даў паліцыянту каня, пасадзіў мяне побач паліцыянта і кажа:

— Дачка прывядзе каня назад.

І неўзабаве прыйшла тату вестачка: конь знайшоўся. А жыд Ютка, які *пакцерам* быў і быдла трымаў, праз некалькі гадоў пасля ў Амерыку выехаў.

Запісаў Аляксандр Вярбіцкі

# Басаноэж зімой і летам

У Бельску-Падляшскім жыве пажылы мужчына, які ўжо дваццаць гадоў ходзіць басанож, таксама і зімою, толькі тады надзявае на сябе паліто. Ян, бо так называецца гэты чалавек, займеў мянушку Басаногага. Можна яго сустрэць усюды — на вуліцы, у магазіне, поездзе, храме і на царкоўных фэстах. Людзі так прызвычаіліся да гэтай незвычайнай асобы, што ўжо не звяртаюць увагі на яго нават тады, калі басанож ходзіць па замерзлай зямлі і снезе. Адны смяюцца, іншыя спачуваюць. Гэтыя другія не раз хацелі ахвяраваць яму шкарпэты і боты, але ён рашуча адмаўляецца.

Ян Басаногі — чалавек адкрыты і лагодны, але да незнаёмых ставіцца з недаверам. Часам некаму ўдаецца завязаць з ім гутарку, але зразумець ягоную філасофію вельмі складана. Сустрэў я яго на аўтобусным вакзале.

— Сотні разоў бачыў я смерць. Цяжка жыць, але цяжэй памерці. Вось якая справа, — кажа Ян, смеючыся. — Чаму басанож? Гэта свайго роду гібернацыя.

Ян змаўкае і каб працягваць размову даводзіцца ставіць чарговыя пытанні.

— Гэта такая ў мяне індывідуальнасць. Трынаццаць з паловай года быў я ў пекле. Магу вам гэта нарысаваць, — гаворыць з упэўненасцю і тлумачыць нешта незразумелае пра жыццё пасля жыцця, каралеўства, пекла і хаджэнне басанож дзеля пекла, царквы і касцёла.

Пытаю свайго субяседніка адкуль у яго такія веды і як да яго ставяцца людзі.

— Уяўленне важнейшае за веды, гаварыў Эйнштэйн, — тлумачыць мне Ян Басаногі. — Людзі па-рознаму да мяне ставяцца. Цяпер жыву спакойна, але пры камуне клопатаў было намнога больш. Тады, калі я толькі выйшаў боса на снег, адразу зачынялі мяне ў псіхушку і лячылі, быццам бы ведалі якая ў мяне хвароба... А там лекары былі больш хворыя за пацыентаў. Цяпер лепш, але залежыць у якіх адносінах, — і Ян спыняе гаварыць пра сябе ды пераходзіць на іншыя тэмы.

Ян жыве ў кааператыўным блёку. Адміністрацыя жыллёвага кааператыва не мае з ім большых клопатаў. Толькі сантэхнікі расказваюць, што прасіў ён адключыць у каватэры гарачую ваду. Калі я запытаў Яна Басаногага ці неабходна яму здымаць абутак, пачаў ён гаварыць пра пакуту і адкупленне, маляваць апакаліпсічную карціну будучага.

**(лч)**

# Шукаю сяброў

Паважаная рэдакцыя, піша вам чытач з Вільні. Мне ваша газета вельмі падабаецца, бо дзякуючы „Ніве" ведаю як жывуць беларусы ў Польшчы.

У Вільні таксама дзейнічаюць розныя беларускія арганізацыі і клубы, працуюць беларуская школа імя Францішка Скарыны, кафедра беларусістыкі, існуе гурток „Сябрына". Наш гурток выступае ў Літве і Беларусі, паспяхова выступіў у Польшчы. У Вільні выходзіць беларуская газета „Рунь". Літоўскія беларусы ладзяць многа культурных мерапрыемстваў, на якія запрашаюцца беларусы з Беларусі і Польшчы.

У мяне ёсць просьба да Вас. Я хачу перапісвацца з польскімі беларусамі, знайсці сяброў у суседняй краіне. Надрукуйце мой адрас.

**Ігар Ахрамовіч**

Лісты высылаць на адрас:
Igar Achramovič
ul. Parko 7-2
Vilnius, Lietuva 2041

# Куцця ў фальклорным садзіку

У Старым Ляўкове (Нараўчанская гміна) працуе фальклорны садзік, якім кіруе Анна Несцярук. У ім адбываюцца цікавыя заняткі з дзецьмі. Настаўніцы запрашаюць у садзік мясцовых народных умельцаў. Дзеці азнаямляюцца, між іншым, з калаўроткамі, кроснамі, народнай вышыўкай і гафтаваннем, абрадным пірагом — вясельным караваем, з абрадавымі песнямі, а таксама з казкамі і легендамі. Пажылыя ляўкоўцы ахвотна расказваюць малалеткам пра недалёкае мінулае — пра часы, калі жыта жалі сярпом ды касілі касою, звозілі вазамі на драўляных колах з жалезнымі абадамі, а малацілі цэпам ды малолі зерне ў жорнах. Гэтак было ўсяго 40-50 гадоў таму.

І зараз, 23 студзеня г.г. у сараляўкоўскім фальклорным садзіку будзе наладжана традыцыйная Куцця ды ёлка.

**(гай)**

# У Гайнаўцы многа дыму

У Гайнаўцы многа кацельняў: фабрычных і прыватных. Узімку ў печах паляць у вілах і ўва ўсіх іншых жылых дамах. У бязветраныя пахмурныя дні ў гэтым горадзе на ўскраіне Белавежскай пушчы поўна дыму, у паветры кружыцца сажа.

У горадзе многа кватэр у шматпавярховых дамах падключылі да пасёлкавых кацельняў. Але нават і ў іх дакучае едкі дым, які ўціскаецца цераз вокны.

У вілах жыхары спальваюць у сваіх печах вугаль, дровы і пілавінне, а нават аўтамабільныя шыны. З шыняў вельмі смярдзючы дым развейваецца па ўсёй ваколіцы. Але за гэта не штрафуюць. Прынамсі не было чуваць, каб штрафавалі. І так, цяпер, зімою Гайнаўка становіцца вельмі задымленым горадам. Мае быць падключаны сюды газ з Бельска-Падляшскага, але, мабыць, прыйдзецца яшчэ пачакаць яго гайнавянам. Тады паветра ў горадзе будзе чыстае дый неба сіняе. А зараз — якая тут экалогія?!

**(гай)**

# Дзяржава-лабараторыя

З увагай прачытаў я артыкул пяра Яўгена Міранові́ча п.з. „Электронная цывілізацыя" („Ніва" н-р 1) і поўнасцю згаджаюся з яго высновамі. І хачу таксама ад сябе дадаць некалькі заўваг на гэтую шырокую і, на жаль, балючую тэму.

З часам будзем мець усё штучнае і нават электронную цывілізацыю, бо ўжо цяпер камп'ютэры вырашаюць пра лёс чалавека. Навука ідзе ўгару, а маральнасць падае. Розныя гвалты, забойствы, пакражы, а нават войны ў многіх людзей выклікаюць задавальненне і падтрымку. Не далёка шукаць: амерыканска-англійскае нападзенне на Ірак выклікала ў многіх палітыкаў (у тым ліку і польскіх) буру апладысментаў. Вучоныя людзі, як тыя мёртвыя электронныя прылады, што без вачэй, душы і сэрца, даюць брава нейкаму амерыканскаму лётчыку-лейтэнанту, які па загадзе Пентагона і набожнага Клінтана прыціскае кнопку сваёй ракетнай установкі і сее смерць ды знішчэнне сярод мірнага насельніцтва. Мне здаецца, што ваенныя злачынствы маюць адну цану ці гэта колішнія гітлераўскія, сталінскія, маоцзэдунаўскія і пальпотаўскія, ці сучасныя — амерыканска-англійскія. На жаль, апошнія „апраўданы" па простай прычыне: бо выводзяцца з панючай клікі капіталістаў, якая запаланіла амаль увесь свет.

Так, тэхніка ідзе ўгару і можна ганарыцца гэтым, але думаю, што тады можна цешыцца, калі яна служыць мірнаму працэсу, а не вайне. А вядома, што ўсе ваенныя прылады выкананы найдакладней і з найлепшых матэрыялаў. Атам, напрыклад, можа служыць мірным мэтам, а можа прывесці і да знішчэння ўсяго людскога роду. Нават мірны атам, калі нагляд за ім павярхоўны, можа выклікаць страшэнную катастрофу, так як было ў Чарнобылі. І сам чалавек, калі ніхто за ім не глядзіць, можа ў хуткім часе стаць зладзеем, бандытам, забойцам. Цяпер, калі маем свабоду і дэмакратыю, страшна выйсці на вуліцу.

Напэўна зробяць і электроннага чалавека, бо ўжо сёння камп'ютэр падобны чалавеку: піша вершы і складае оперную музыку. Але такі камп'ютэр пазбаўлены чалавечых рысаў і душы, хаця цяперашні чалавек мо мала і розніцца ад таго штучнага. Калісьці я захапляўся савецкімі фільмамі, бо яны сапраўды былі цікавыя, але пасля дайшоў да вываду, што ў іх замнога прапаганды і хлусні. Цяпер усё змянілася, савецкія і рускія фільмы загінулі, а ў модзе толькі амерыканскія. І калі савецкія былі фальшывыя, дык амерыканскія — адно дно. Там адны мана, бандытызм і падзенне душы; ад іх маральнасці і добрае навукі не чакай. І думаю, што скора ЗША стане дзяржаваю-лабараторыяй і камп'ютэрам; і будзе ёю правіць той, што мае лічбы „666".

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне вельмі мілы сон. Быццам уваходжу я ў нейкі пакой (не ведаю, чыя гэта хата), а ў ім стаяць, таксама незнаёмыя мне, муж і жонка. На падлозе я бачу вазон, які разлажыў сваё зялёнае лісце па падлозе. Гэта лісце ідзе кругам, а я стаю ў сярэдзіне гэтага круга. Быццам такі вялікі зялёны вянок. А побач яшчэ віселі на сценах нейкія кветкі. Што будзе, скажы?!

**Марыля**

Астроне! Сніцца мне ні то рака, ні то заліў, не вельмі, здаецца, глыбокі. Я стаю на гразкаватым беразе. На лодцы плыве мой блізкі сябра (мы з ім даўно не бачыліся). Ён адплывае на сярэдзіну гэтага азярца, там дзе растуць вадзяныя расліны, ірве кветкі і прывозіць мне бярэмя жоўтых гарлачыкаў; яны ляжаць упоперак лодкі, з доўгімі сцяблінамі. Памятаю, што ў сне не было ў мяне вялікай ахвоты іх ад яго браць, я адчувала сябе няёмка, і было мне неяк сумна.

**Нінка**

Дальбог, Марыля, твой сон добры. Зелень наогул абазначае надзею на лепшае, больш таго, спаўненне гэтай надзеі. А ў тваім сне гэта зелень была надта буйная і прыгожая, а ты стаяла ў сярэдзіне яе. Ну, але ж яшчэ ў сне прысутнічалі і кветкі, якія прадвяшчаюць радасць.

Твой сон, Нінка, крыху больш складаны, хаця і ён — пра кветкі. Думаю, чаму гэта табе не хацелася браць тыя кветкі ад сябра?.. Нешта ў вас мо было, але яно выклікала ў цябе непрыемныя ўспаміны. Нейкую тваю радасць зацьмяць плёткі (ты стаяла на гразкім беразе), у выніку якіх ты будзеш вымушана змяніць ці працу, ці круг сваіх блізкіх сяброў (за гэта гаворыць лодка, на якой плыў твой сябра). Ну, і кветак, бачыш, ты не хацела браць.

**Астрон**

**Ад рэдакцыі:** Па прычыне святочнай стомленасці і кароткага тэрміну падрыхтоўкі газеты сны ў папярэднім нумары „памылкова" рассакрэчвала Сэрцайка, а не **Астрон**. Спадзяемся, што памылка датычыць толькі подпісу, а не сутнасці прадстаўленага тлумачэння сну.

# Валейбольны турнір у Нараўцы

29 студзеня г.г. у гімнастычнай зале Пачатковай школы ў Нараўцы адбудзецца гмінны турнір па валейболе з удзелам вучняў школ у Семяноўцы, Старым Ляўкове і ў Нараўцы за кубак дырэктара Нараўчанскай ПШ. Пачатак спартыўнага мерапрыемства а гадзіне 17.

**(гай)**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Міранові́ч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Prenumerata:*

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 lutego 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Мал. Алега КАРПОВІЧА

## Кароткі курс параноі

**Як рабіць інтэрв'ю**

Радыё „У пагоні за знакам". Рэпарцёр (задыханы):

— Сёння ў нашай студыі вядомы паэт... (гартанныя гукі, канфідэнцыяльны паўшэпт):

— Як вы называецеся?

— Галавасцюк.

— ... Галавасюк.

— Не „сюк", а „сцюк".

— А я сказаў як?.. Спадар паэт, раскажыце нашым слухачам пра сябе.

Паэт не чакаў такога пытання, думаў — пра яго раскажа рэпарцёр. Запнуўся, замяўся, уздыхнуў:

— Нарадзіўся... (Хвалько! Нарадзіла цябе маці. Дый не меў ты іншага выйсця). — Выхаваўся... (Двойка! Выхавалі цябе)... Працую... (О, не гультай!)... Пішу... (Зважай!).

Рэпарцёр ускочыў у тэму:

— І шмат напісалі? (Бойка).

— Трыста вершаў (цяжка ўздыхаючы).

— Многа гэта ці мала? (Разгублена).

Паэт збянтэжыўся: Ёлупе, падвучыся. Але недарам ён Галавасцюк:

— Шымборская напісала сто пяцьдзесят (сціпла і дастойна: сам мяркуй).

— І атрымала нобеля! Гі-гі-гі! (Яхідна).

— З чаго смяешся? (Злосна). Мне не смешна (з сумам).

— Гі-гі-гі! (На ўвесь эфір).

І папёр на журфак вучыць студэнтаў, як рабіць інтэрв'ю.

Заўважана: не ўмееш сам зрабіць, вучы іншых.

З аблягчэннем —

**Сідар Макацёр**

**Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:**

*Як паведаміў друк, правы ваявода назначыў дырэктарам шпіталя сябра па ідэі і адукацыі. Новага шэфа вітаў увесь персанал і пацыенты (яшчэ на ходзе).*

Праспявалі дружна *Sto lat!*
— Ёсць дыплом?
— А як жа! Столяр.
Тапорыкам ножку — чык!
Спецыяльнасць — грабаўшчык.
— Ну і што!? — пан ваявода.
— Думалі, магістра дам?
Камуняку? Сатану?
Хутчэй скокну ў труну!

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. ядавітая яшчарка, якая водзіцца на тэрыторыі ЗША і Мексікі, 7. горад у Марока, 8. венгерскі танец, 9. грашовая адзінка Гандураса, 10. настраенне ваенных у калоне па росту, 14. летняя адкрытая прыбудова да дома, 18. прапала ..., прападай і вяроўка, 19. аддзяленне буйнога прадпрыемства, 20. металічны барометр, 21. горад у Ферганскай даліне.

**Вертыкальна:** 1. магічны сродак забабонных людзей, 2. Іаган, нямецкі кампазітар (1771—1858), 3. выспа ў Багамскіх астравах, 4. вымерлы паўзун, 5. горад у штаце Агайо, 6. горад на Віцебшчыне, 11. крайняя скіба хлеба, 12. у сярэдзіне птушынага яйка, 13. дзяржава з Кігалі, 15. сукупнасць эпічных твораў, 16. горад між Мадрыдам і Саламанкай, 17. размер заработнай платы.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 50 нумара**

**Гарызантальна:** гіена, перапалох, парад, дачка, шаг, Вятлуга, абатыса, рай, Алтай, парог, Камінтэрн, накат.

**Вертыкальна:** лемпіра, горад, аклад, паралітык, Хачатуран, плява, абсяг, шар, Гай, Арынока, Йемен, прэнт.

Рашэнне: **Максім Танк**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Наталлі Герасімюк** з Гайнаўкі і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## Рэпка

Пасадзіў дзед рэпку. Вырасла рэпка вялікая-вялікая. Захацеў дзед рэпку выцягнуць, бабе пахваліцца. Цягне ён тую рэпку, цягне, выцягнуць не можа. Прыйшла баба, глянула і кажа дзеду:

— Схадзі ў гміну, да войта, мо ён што паможа.

Паехаў дзед веласіпедам у гміну, расказаў войту пра свой клопат.

— Напішыце, дзед, заяўку, — адказаў войт, — разгледзім, мо ў нечым дапаможам.

Напісаў дзед пісульку і пакінуў у гміне, вярнуўся дадому і чакае. Барада яму вырасла, як прыехаў на поле войт з рэферэнтамі. Агледзелі чыноўнікі рэпку з усіх бакоў, пашапталіся паміж сабою і войт нарэшце сказаў:

— Вытворчыя магутнасці ў нас невялікія, наш стары аграном адышоў на пенсію, а ўсе апошнія нашы працаўнікі цяжка змагаюцца на працоўным фронце за пераможнае выкананне справаздач аб паспяховым выкананні сельскагаспадарчых прац. Мы прынялі адзінаправільнае рашэнне: раім вам, дзед, падацца за дапамогаю ў павет.

Пабрыўся дзед і паехаў на аўтобусе ў павет. Старасты не было, бо паехаў у загарадскія гастранамічныя ўстановы пасачыць за культураю абслугоўвання наведвальнікаў. Дзедавы паперы прыняла сакратарка старасты і ветліва заўсміхалася дзеду:

— Перадам старасту на разгляд, чакайце, дзед, паспяховага рашэння вашай справы.

Вярнуўся дзед дадому і чакае. Барада яму вырасла пакуль прыехаў староста з начальнікамі. Агледзелі чыноўнікі рэпку з усіх бакоў, пашапталіся паміж сабою і староста нарэшце сказаў:

— Вытворчыя магутнасці ў нас невялікія, наш стары бульдозер здалі мы на рамонт, а апошнія машыны змагаюцца за выкананне напружанага графіка прадукцыі і паслуг. Мы прынялі адзінаправільнае рашэнне: раім вам, дзед, падацца ў ваяводства.

Павятовыя чыноўнікі ад'ехалі, а дзед пабрыўся, сеў за стол, напісаў пісьмо ваяводу, звазіў на паштамт і чакае адказу. Барада яму вырасла пакуль з'явіўся ваявода з дырэктарамі. Агледзелі чыноўнікі рэпку з усіх бакоў, пашапталіся паміж сабою і ваявода нарэшце сказаў:

— У нічым вам, дзед, не можам дапамагчы: не маем экспертызы доктара Марошкіна і мець не будзем, бо ён пільна заняты працай. Мы прынялі адзінаправільнае рашэнне: раім вам, дзед, адрэзаць рэпцы корань і справе канец будзе.

Чыноўнікі паехалі, дзед загнуў некалькі матаў на іх, пабрыўся, падаўся на пошту і паслаў факс у сталіцу. Новая барада яму вырасла, калі з'ехаўся ўрад з усімі міністрамі. Агледзелі чыноўнікі рэпку з усіх бакоў, пашапталіся паміж сабою і нарэшце галоўны міністр сказаў:

— Наш урад, згодна настаўленням Еўрапейскага Саюза, праводзіць цяпер рэструктурызацыю сельскай гаспадаркі і землездабываючай прамысловасці. Нам, закрываючым нерэнтабельныя капальні, нельга без скрупулёзнага аналізу і сімуляцыі экалагічных, эканамічных і прадукцыйных працэсаў адкрываць новыя. Мы можам, у крайнім выпадку, гарантаваць вам крэдыт на пабудову капальні рэпкі, але толькі тады, калі вы, дзед, пабудуеце тут усю інфраструктуру рэпкакапальні, апрацуеце яе тэхнічны праект і прадставіце нам гарантыі яе рэнтабельнасці.

Чыноўнікі паехалі, а дзед засумаваў і з гора заснуў. Доўга ён спаў, або і нядоўга, калі разбудзіла яго баба:

— Уставай, дзед, ідзі і паглядзі: Федзікаў Коля, які раніцаю вазіў дровы Нюрынаму Косцю, мусіць так з ім нарэзаўся, што трактарам упоперак нашага поля ездзіць... Ідзі!

Зайшоў дзед і вачам не верыць: на яго палетку пыхціць трактар ціхенька, быццам завод экалагічнай прадукцыі, а Коля і рэпка мірна ляжаць разам у крывой баразне.

**Адам Маньяк**

Фрашкі пра нашых

### Біяблеграфічнае

Як рубацца — дык ад вуха,
Як хваліць — утапіць у мёдзе.
Калі слухаць — ну, дык слухаць! —
З языком на падбароддзі,

Перш за ўсё, калі чужыя,
Нават цёмныя як морак,
Мутнай мовай „боты шыюць",
Каб расчысціць *свой* падворак;

Ледзь лізнуўшы пару літар,
Разглядзеўшыся ў кнігарні...
Хай ён доктар, хай магістар,
Ну а мы... мы пух той марны,

Пра які, калі пра пёры,
Мог пісаць хоць Рэй (пра гусак).
Мы... за наша... каб не ўмёрлі...
А за нас дастануць плюсы.

**Вандал Арлянскі**

З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне

## „Даўціпы" Сакрата Яновіча

*„Termopile" i Villa Sokrates mają być dowodem obecności kultury białoruskiej na świecie. Istnienie literatury polskiej biało-ruskiej jest szansą dla literatury białoruskiej w ogóle. Idea Villi Sokrates uzupełnia też nową formułę miesięcznika „Czasopis", pisma polsko-białoruskiego dla środowisk inteligenckich, przeciwieństwa typowo ludowej „Niwy". „Czasopis", „Termopile" i teraz Villa Sokrates trójkąt wzajemnie się wspierający — mówi Janowicz. (...) W Villi Sokrates będzie też miejsce dla młodych. — Literatura białoruska ostro prze do przodu. Chcę jej w tym pomóc. W poprzednich latach widzę większe wpływy literatury rosyjskiej na białoruską niż teraz. Młodzi pisarze na Białorusi popadli w inną skrajność i niepotrzebnie odżegnują się od literatury rosyjskiej, panuje zachłanne nasycanie się literaturami zachodnioeuropejskimi. Natomiast polska literatura białoruska jest przez nich przeceniana. Według nich niektórzy z nas są wręcz geniuszami. Jesteśmy dla nich furtką, przez którą powiało świeże powietrze.*

*„Gazeta Wyborcza", nr 3, 01.01.1999*

Жаласнае, але разграшаем.

* * *

*Po prostu wyłazi z nas Wielki Cham, zaczajony przedtem przed restrykcyjną, także na ludowo moralną, komuną,* — адкрыўча інфармуе польска-беларускую інтэлігенцыю галоўны кватарант Villi Sokrates.

*„Czasopis", nr 1, styczeń 1999.*

Шчыра спачуваем!